Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 23 (4926) 9 чэрвеня 2017 г.



# ДУХ ТВОРЧАСЦІ ЯДНАЕ

**XVII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2017» сёлета прайшоў пад знакам 135-годдзя народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Нябачная прысутнасць гэтых творцаў адчувалася амаль на ўсіх пляцоўках. Вось яны, праслаўленыя ў свой час і не забытыя сёння, назіраюць, ці захавалі нашчадкі іх запавет берагчы родную мову, ці гучыць шырока прыгожае беларускае слова, ці стала самае правалентнае, самае блізкае ўвасобленым у добрую кнігу, спектакль, песню, блізкую сучаснікам?..**

Фестываль у Маладзечне — без перабольшвання ўнікальны. Гэта адзіная пляцоўка такога маштабу, дзе некалькі дзён гучаць творы па-беларуску. Вядома, хацелася б, каб такіх фэстаў было больш. Але пакуль што, каб дакрануцца да жыццядайных крыніц роднай мовы і прыгожай песні, варта ехаць у Маладзечна.

— Мы адкрываем фестываль урачыстым канцэртам. Адначасова гэта і падвядзенне вынікаў конкурсу маладых выканаўцаў, — адзначыў **міністр культуры Беларусі Барыс СВЯТЛОЎ.** — Для такога свята трэба, каб саспелі таленты, каб арганізатары падрыхтавалі адметную праграму, якая з'яўляецца вынікам супрацы паэтаў і кампазітараў, — ім таксама патрэбен час, каб нараджаліся новыя творы. На мой погляд, варта кожны год запрашаць новых рэжысёраў, якія прапаноўвалі б сваю канцэпцыю — і тады свята стане яшчэ больш яскравым. Можа быць, з наступнага года мы пачнём гэта рабіць на конкурснай аснове, як і на іншых значных фестывалях. Тады з'явіцца канкурэнцыя і розныя бачанні фэсту.

Працяг на стар. 3 ►




Фота БелТА.

Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў атрымлівае Вольга Булай.



Фота БелТА.

# У дыялогу

## Чацвёра вялікіх на адной пляцоўцы

Сёння ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь глядач ідзе, каб убачыць творы італьянскага мастака-футурыста Джэрарда Даторы, якія прадстаўлены побач з работамі Марка Шагала, Хаіма Суціна, Надзеі Хадасевіч-Лежэ. Творцы «сышліся» на выстаўцы «Энергія, экспрэсія, сімволіка і сны. Погляд на мастацтва Італіі і Беларусі першай паловы XX стагоддзя».

Праект арганізаваны сумесна Пасольствам Італіі, Нацыянальным мастацкім музеем і Белгазпрамбанкам і прымеркаваны да 25-й гадавіны ўсталявання дыпламатычных адносін паміж краінамі. Выстаўка пабудавана лагічна: паказаныя чатыры цалкам розныя погляды на футурызм. Прозвішча Даторы тут займае адну з галоўных пазіцый, у тым ліку таму, што яго творы прэзентуюцца ў Беларусі ўпершыню.

Аднак мы можам паглыбіцца ў гісторыю футурызму наогул, нават не выходзячы з выставачнай залы, дзе розныя аўтары змаглі «прыжыцца» ў адной прасторы. У гэтым якраз і заключаецца ідэя арганізатараў — стварыць дыялог паміж прадстаўніком італьянскага авангарднага руху і трыма майстрамі мастацтва пачатку XX стагоддзя — выхадцамі з Беларусі.

— Беларусы добра знаёмыя з італьянскай культурай і яе традыцыямі, — адзначае Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італіі ў Беларусі Стэфана Б'янкі. — Нас аб'ядноўвае даўняе супрацоўніцтва. Мы вырашылі не ісці ад простага і паказалі беларусам новыя факты пра сваю краіну, таму для выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі Мінска абралі менавіта асобу Джэрарда Даторы.

Працяг на стар. 12 ►

## Пункціру

✔ Дні культуры Малдовы ў Беларусі прайшлі 6 — 7 чэрвеня. Гэта сведчыць пра шчыры ўзаемны інтарэс дзвюх краін. Такое меркаванне выказаў прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў у Белдзяржфілармоніі на цырымоніі адкрыцця Дзён культуры. Падпісаны план сумесных мерапрыемстваў у сферы культуры на 2017 — 2019 гады, што пацвярджае жаданне і далей развіваць культурнае супрацоўніцтва. З нагоды святкавання 25-годдзя ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж краінамі запланаваны шэраг адметных мерапрыемстваў, у тым ліку ўсталяванне бюста Францыска Скарыны ў Кішынёве.

✔ У СНД 2019 год плануецца аб'явіць Годам кнігі, а 2020-ы — Годам 75-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Такая прапанова шэрагу краін Садружнасці была падтрымана на сумесным пасяджэнні Савета па гуманітарным супрацоўніцтве і праўлення Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД, якое адбылося ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Беларусі ў Расіі пад старшынствам міністра інфармацыі Беларусі Лііі Ананіч. Удзельнікі абмеркавалі падрыхтоўку да XII Форуму творчай і навуковай інтэлігенцыі дзяржаў СНД, які плануецца правесці ў Маскве, тэматыку сумесных мерапрыемстваў на найбліжэйшыя гады. Адобраны план міждзяржаўных праектаў, якія будуць ажыццяўляцца пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва ў 2018 годзе.

✔ У Саюзнай дзяржавы можа з'явіцца маладзёжны аркестр народных інструментаў. З ініцыятывай яго стварэння да камісіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі па сацыяльнай палітыцы, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях, пасяджэнне якой праходзіла ў Магілёве, звярнуўся мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра народных інструментаў імя Л. Іванова Магілёўскай абласной філармоніі Мікалай Алданаў. Старшыня камісіі Алена Афанасьева адобрыла прапанову. Парламентарыі абмеркавалі прыярытэтныя напрамкі маладзёжнай палітыкі ў Саюзнай дзяржаве, азнаёміліся з навучальным працэсам у філіяле Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, ацанілі выступленні ўдзельнікаў праекта «Маладыя таленты Магілёўшчыны» ў суправаджэнні аркестра народных інструментаў імя Л. Іванова.

✔ Выстаўка «Кніга і культура», дзе прадстаўлена каля 350 мініяцюрных выданняў, адкрылася ў музеі палаца Румянцавых і Паскевічаў у Гомелі. Экспазіцыя прымеркаваная да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Прадстаўлена ўнікальная прыватная калекцыя мінчаніна Яўгена Ксяневіча, якая налічвае каля 350 мініяцюрных кніг. Гэта выданні па філасофіі, гісторыі, творы класікаў сусветнай літаратуры, дзіцячыя кнігі, атласы, каталогі мініяцюрных кніг, якія выпускаліся ў СССР у другой палове XX стагоддзя.

✔ Класічная музыка будзе гучаць у сталічным метро. На платформах усіх станцый будуць уключаць музычныя кампазіцыі беларускіх аўтараў. Культурны праект «Гукі метро. Слухай сваё» стаў адным з фіналістаў конкурсу *Social Weekend*. Ідэю падтрымалі спонсары і Мінскі метрапалітэн. Такія ініцыятывы ўжо рэалізаваны ў іншых краінах і, як паказвае практыка, знаходзяць станоўчы водгук. Першы ролік прадставіць паланэз Напалеона Орды «Паўночная зорка».

## *У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# ЯШЧЭ І ГУМАРЫСТ!



*Фота Кастуся Дробава.*

**Сяргей Давідовіч — творца разнапланавы. У тым маглі пераканацца ўдзельнікі сустрэчы, якая адбылася напрыканцы мая ў кнігарні «Кнігаполіс». Паэта, мастака, дзіцячага пісьменніка прадставіў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў.**

Удзельніца сустрэчы народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч распавяла пра Сяргея Давідовіча як паэта-лірыка, звярнула ўвагу на адметныя рысы яго творчасці. «У кожным вершы Давідовіча — драматургія, па кожным можна ставіць міні-спектакль», — упэўнена Марыя Георгіеўна.

Наведвальнікі сустрэчы — вучні старэйшай школы — упадабалі Сяргея Давідовіча як мастака. Падчас камп'ютарнай прэзентацыі сваіх работ творца ўзгадаў некалькі эпізодаў з дзяцінства, патлумачыў змест карцін на рэлігійныя тэмы. Мастацтвазнаўца Галія Фатыхава падкрэсліла значнасць у творчасці Сяргея Фёдаравіча чарнобыльскай тэмы. Частку карцін, прысвечаных Чарнобылю, мастак падараваў Аўстрыі, што дазволіла беларускім дзецям паехаць у Еўропу на аздараўленне.

Карціны спартыўнай тэматыкі, дзе актыўныя дзед і баба гуляюць у хакей і валейбол, спрабуюць сябе ў розных відах спорту, выклікалі ў наведвальнікаў дружны смех. Талент Сяргея Давідовіча як мастака-гумарыста атрымаў належнае прызнанне! На развітанне Сяргей Фёдаравіч пажадаў усім цікавіцца дзейнасцю айчынных пісьменнікаў і мастакоў, а таксама знайсці сябе ў творчасці.

**Янка НАТАВЕЦ**

## *Стасункі*

# МІХАЙ ЭМІНЭСКУ: БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ

**Урачыстасць, прымеркаваная да 25-годдзя з дня ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Румыніяй і Беларуссю, адбылася ў каледжы імя М. І. Глінкі ў межах беларуска-румынскага Тыдня музыкі «Дыялог культур» пры падтрымцы Пасольства Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь. Кіраўнікі Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі і Мастацкага ліцэя імя Канстанціна Брэілою (г. Тыргу Жыу, Румынія) Уладзімір Чэрнікаў і Ана-Дар'я Іанэску-Хайдэу падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве.**



*Фота Яўгена Пясецкага.*

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Віярэл Машану з жонкай Надзяй Машану і перакладчыца паэмы «Лучафэрул» на беларускую мову Юлія Алейчанка.*

Візіт румынскіх гасцей у Мінск супаў з пачаткам працы над перастварэннем пабеларуску паэмы класіка румынскай літаратуры Міхая Эмінэску «Лучафэрул». Рупілася над перакладам паэтэса, сябар СПБ Юлія Алейчанка. Яе працу публіцы прадставілі навучэнцы Мінскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі Дар'я Ліцвякова ды Валерый Скірдонаў і навучэнка Мастацкага ліцэя імя Канстанціна Брэілою Марыя Гогу.

— Паэму «Лучафэрул» часта параўноўваюць з паэмай Міхаіла Лермантава «Дэман». У першую чаргу таму, што абодва творы містычныя, пачуццёвыя і трагічныя. Твор Міхая Эмінеску, пра трагічнае каханне, — увасабленне жыццёвага крэда, выбару аўтара. Паводле настрою паэма блізкая і да твораў Адама Міцкевіча, — распавяла Юлія Алейчанка.

«Жыла ў легендах лепшых дзён, / Што коцяцца няспынна, / У родзе, ведамым здавён, прыўкрасная дзяўчына…» Самыя першыя радкі твора, падобныя на пачатак казкі, адсылаюць чытача да даўніны, да гістарычнага мінулага.

Дырэктар Мастацкага ліцэя імя Канстанціна Брэілою Ана-Дар'я Іанэску-Хайдэу прадставіла выстаўку навучэнцаў ліцэя па спецыяльнасці «Выяўленчае мастацтва і графіка», прысвечаных творчасці Міхая Эмінэску.

— Гэта першы румынска-беларускі сумесны праект, які аб'ядноўвае навучэнцаў абедзвюх устаноў. Яны супрацоўнічаюць, вучацца адзін у аднаго, — зазначыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Румыніі ў Рэспубліцы Беларусь Віярэл Машану.

Румынская дэлегацыя гасцявала ў Мінску чатыры дні: экскурсіі, майстар-класы, круглы стол... Вынікі сумеснай працы — у сумесным канцэрце, прысвечаным Міжнароднаму дню абароны дзяцей.

**Яна ЯВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**9 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з галоўным рэдактарам часопіса «Берега» (г. Калінінград), членам Саюза пісьменнікаў Расіі Лідзіяй Давыдзенка ў Мемарыяльную залу Дома літаратара. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**12 чэрвеня** — *у школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак у 14.30.*

**13 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у дзіцячую бібліятэку № 15. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**13 чэрвеня** — *на літаратурнае свята з удзелам пісьменнікаў у Дом творчасці г. п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна. Імпрэза ладзіцца ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай». Пачатак а 12-й гадзіне.*

**14 чэрвеня** — *на літаратурную імпрэзу ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у дзіцячую бібліятэку № 16. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**14 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Валерыем Квілорыя ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у публічную бібліятэку № 4. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**15 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у межах рэспубліканскай акцыі «Лета — з добрай кнігай» у сталічную гімназію № 20. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**12 чэрвеня** — *на сустрэчу з пісьменніцай Ірынай Карнавухавай у Мінскі раённы цэнтр культуры (г. Мінск, вул. Вышалескага, 4). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**8чэрвеня** —*ўфіліялбібліятэкі№9г. Брэста на сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Алёнай Гнявушавай. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**12 чэрвеня** — *у Цэнтральную дзіцячую гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна на сустрэчу з пісьменнікам і юбілярам Васілём Жушмам. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**13 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу «Усё пра прыроду» з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў Мяжэўскую сельскую бібліятэку Аршанскага раёна. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**14 чэрвеня** — *на час для размовы «Мае сябры — кнігі» з Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў аршанскую бібліятэку імя У. Корбана. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**15 чэрвеня** — *на «Час дзіўных адкрыццяў» з Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў бібліятэку імя У. Караткевіча г. Оршы. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**16 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу «Вакол свету па старонках кніг» з Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў аршанскую бібліятэку імя М. Горкага. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**11 чэрвеня** — *у літаратурную гасцёўню з удзелам пісьменнікаў Гродзеншчыны ў межах абласнога фестывалю кнігі «Кніга і час» (г. Свіслач, Цэнтр культуры і народнай творчасці). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**16 чэрвеня** — *у летні літаратурны салон з удзелам гродзенскіх творцаў у межах «Гродзенскіх сезонаў пані Элізы» ў Доме-музеі Элізы Ажэшка ў Гродне. Пачатак а 18-й гадзіне.*

# ДУХ ТВОРЧАСЦІ ЯДНАЕ

## «Вы нас гадавалі»

Важна, што напярэдадні ўрачыстага адкрыцця фестывалю, 1 чэрвеня, святочныя мерапрыемствы прайшлі пад знакам яшчэ аднаго выбітнага беларуса — нашага першадрукара. У Мінскім абласным драматычным тэатры адбылася творчая вечарына «З'яднаныя любоўю да зямлі сваёй», падчас якой быў прэзентаваны зборнік драматычных твораў «Францыск Скарына і сучаснасць». Таксама ў Маладзечне адбылася прэм'ера спектакля «Беларусь. Дыдактыка» ў пастаноўцы Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з удзелам народнай артысткі Беларусі Таццяны Мархель (пастаноўшчык — Аляксандр Марчанка).

Для ўрачыстага адкрыцця фестывалю была падрыхтавана адмысловая праграма — «Купала і Колас. Вы нас гадавалі». Падчас яе зоркі беларускай эстрады спявалі разам з Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга.

Усе песні, якія прагучалі ў праграме, напісаныя на вершы Купалы і Коласа. Гэта вядомыя і любімыя ўсімі хіты. А таксама нядаўна створаныя кампазіцыі. Напрыклад, толькі кампазітар Эдуард Зарыцкі прэзентаваў гэтым вечарам шэсць новых песень.

У той жа дзень, крыху раней, у Палацы культуры Маладзечна адбылася пастаноўка «Паўлінкі», адмыслова прывезеная сюды Купалаўскім тэатрам з Мінска. Прыемна, што на спектаклі быў поўны аншлаг. Гледачы то затоена сачылі за тым, што адбывалася на сцэне, то гучна смяяліся з дасціпных жартаў, якія прамаўлялі акцёры.

Дарэчы, і на іншыя канцэрты была прададзена вялікая колькасць квіткоў. Гэта значыць, маладзечанская публіка любіць фестываль і гатова, як той казаў, рублём галасаваць за песні на роднай мове.

Канцэрт-закрыццё быў прымеркаваны да 45-гадовага юбілею ансамбля «Сябры». Мастацкі кіраўнік і вядучы канцэрта народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка здолеў прадставіць яскравую праграму. Разам з ім на сцэну выходзілі Руслан Аляхно, Вікторыя Алешка, многія іншыя таленавітыя артысты. Сапраўдным гімнам можна лічыць кампазіцыю «Ты мой дом», якую выканалі ўсе разам.

Прагучала і новая версія песні «Вы шуміце, шуміце». Нагадаем, што пасля спрэчкі з кампазітарам Эдуардам Ханком, аўтарам гэта шлягера, Анатоль Ярмоленка напісаў новую музыку для любімай многімі песні. На падмостки летняга амфітэатра ў гэты вечар падымаўся таксама паэт Леанід Дранько-Майсюк, які прачытаў свой верш, прысвечаны жанчынам.

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.




Фота БелТА.

## Калі запальваюцца зоркі

На фестывалі ўжо традыцыйна былі падведзены вынікі конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні. Творы ў трэцім, заключным, аддзяленні конкурсу маладыя артысты выконвалі ў суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра. Абсалютнай пераможцай сёлета стала прадстаўніца Мінскай вобласці Вольга Булай, навучэнка сталічнага каледжа мастацтваў. Ёй прысудзілі адразу дзве ўзнагароды — Гран-пры, а таксама спецыяльны прыз імя Уладзіміра Мулявіна. Першае месца дасталася Ганне Трубяцкой з Магілёўскай вобласці. Другое месца — у Аляксея Грыневіча з Мінскай вобласці. Трэцяе месца падзялілі Аляксандр Малашэнка з Магілёўскай вобласці і Міла Урбановіч з Гомельшчыны.

— Мая заветная мара яшчэ з самага ранняга дзяцінства — спяваць у аркестры Міхаіла Фінберга. Я была вельмі рада, калі прайшла ў фінал. А цяпер мары здзяйсняюцца! — распавяла **Вольга Булай.** — Гэта вакальны конкурс, таму трэба было паказаць сваё песеннае майстэрства. Мы выбралі дзве абсалютна розныя па настроі, вобразнасці кампазіцыі, каб я магла паказаць розныя магчымасці свайго вакалу... Мы жывём у цудоўнай краіне. Таму кожны беларус, артыст павінен выконваць песні па-беларуску. Калі спяваеш на сваёй мове, заўсёды хочацца дастукацца да слухача. Бо мы прадстаўляем эстрадныя песні, якія падабаюцца, у асноўным, маладым людзям. На жаль, яны мала слухаюць песні па-беларуску. Таму хочацца натхніць моладзь, каб яны не толькі слухалі, але і самі спявалі па-беларуску.

## «Красуй, Беларусь»

Паэтычная гасцёўня «Красуй, Беларусь» традыцыйна сабрала прыхільнікаў добрых вершаў. Сваім паэтычным словам тут дзяліліся члены Саюза пісьменнікаў Беларусі — Міхась Башлакоў, Уладзімір Мазго, Міхась Пазнякоў, Мікола Шабовіч, Іна Фралова і іншыя.

Цікава, што Янка Купала і Якуб Колас нібы рэальна прысутнічалі на імпрэзе. Некаторыя выступоўцы звярталіся да іх асабіста — быццам бачылі перад сабой. Абсалютная большасць твораў, якія гучалі, была прысвечана народным паэтам. Дух сапраўднай творчасці яднае. Ён нязгасны і сёння. Праграму паэтычнай гасцёўні дапоўнілі выступы яскравых бардаў — Ганны Чумаковай і Андрэя Зыгмантовіча. Адна з песень апошняга, «Месяц лампаду запаліць», напісана на верш Навума Гальпяровіча, які вёў рэй на паэтычнай імпрэзе. Яго сувядучай, як і ў мінулыя гады, была Таццяна Сівец. Напрыканцы яна прачытала ўласныя, вельмі пранікнёныя, вершы.

**Першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена СТЭЛЬМАХ,** якая ўпершыню брала ўдзел у паэтычнай гасцёўні, адзначыла:

— Янка Купала і Якуб Колас карысталіся самай прыгожай беларускай мовай. Яны адлюстравалі ў ёй сапраўдныя характары, вобразы нашых землякоў — тых людзей, якіх доля гне, але ніяк не зламае. Усё гэта падмацавана нашай нацыянальнай свядомасцю. Але, як мне падалося, сёння ў голасе Янкі Купалы гучала вельмі вялікая трывога пра нас сучасных, пра тое, якую небяспеку нясе XXI стагоддзе, якім няпростым бывае наш свет. Мы ў адказе за кожнае слова, за нашу родную мову.

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ, г. Маладзечна.**

## Дайджэст

• У кастрычніку пачнуцца здымкі фільма паводле рамана Віктара Пялевіна «*Empire V*», напісанага ў 2006 годзе. Сродкі збіралі на краўдфандынгавай платформе «Планета». Выніковая сума прыбытку склала амаль 8 мільёнаў рублёў і паставіла новы рэкорд па зборах на расійскіх краўдфандынгавых пляцоўках. Некаторыя з удзельнікаў збору рыхтуюцца да здымак у фільме: спецыяльныя акцыі, што дазваляюць пераўтварыцца ў экранных вампіраў, прадстаўнікоў маскоўскага бамонду і нават Халдзея Пятай імперыі, каштавалі 25 тысяч рублёў і знайшлі сваіх пакупнікоў, аднак пасада генеральнага прадзюсара фільма (за яе трэба было ўнесці 5 мільёнаў) засталася незапатрабаванай.

• Тыдзень «рускіх таргоў» распачаўся ў Лондане 5 чэрвеня. На продаж патрапілі сотні карцін ды прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Расійскае інфармацыйнае агенцтва ТАСС паведамляе, што самы дарагі лот «рускага тыдня» ацэнены ў 1 — 1,5 млн фунтаў стэрлінгаў. Гэта карціна Ісаака Левітана «Лета», якую выставіў вядомы аўкцыйны дом *Sotheby's*. «Партрэт афрыканскага хлопчыка» Кузьмы Пятрова-Водкіна, прапанаваны ад *MacDougall's*, ацэнены ў 400 — 600 тыс. фунтаў. Адзін з топ-лотаў — карціна партрэтыста Леаніда Пастарнака "У К. А. Каровіна: страдаўнія песні (Шаляпін і мастакі)», што каштуе прыкладна ад 60 да 80 тыс. фунтаў. Самай дарагой карцінай расійскага мастака, прададзенай падчас аўкцыёну, ТАСС назваў «Супрэматычную кампазіцыю» авангардыста Казіміра Малевіча, якую прадалі на таргах у Нью-Ёрку ў 2008 годзе за 60 мільёнаў.

• У дзень народзінаў Аляксандра Пушкіна, падчас кніжнага фестывалю ў Маскве, атрымалі ўзнагароды лаўрэаты штогадовай літаратурнай прэміі «Ліцэй» для маладых празаікаў і паэтаў. З дзвюх тысяч прэтэндэнтаў у фінал конкурсу выйшлі 20 твораў, а выніковая ўзнагарода дасталася траім аўтарам з намінацыі «Паэзія» і траім — з «Прозы». Дэбютанты атрымалі грашовыя прызы і магчымасць надрукаваць зборнік са сваімі творамі ў буйным расійскім выдавецтве. Адмыслова да цырымоніі ўзнагароджання выдавецкі сэрвіс *Ridero* зрабіў для фіналістаў спецыяльны падарунак і надрукаваў кнігі з іх творамі.

• На кафедры літаратуры Маскоўскага дзяржаўнага інстытута культуры з'явіцца праграма падрыхтоўкі дзіцячых пісьменнікаў. Спецыялісты інстытута культуры рыхтуюць навукова-метадычную базу для новага кірунку навучання. Больш за тое, да серыі «Адкрытая бібліятэка МДІК», дзе друкуюцца кнігі інстытута, далучаць дадатковую серыю «Адкрытая дзіцячая бібліятэка МДІК», дзе прадставяць творы маладых дзіцячых пісьменнікаў. Кіраўніком новага праекта прызначаны член праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Андрэй Варанцоў.

## ЛіМ-каляндар

**5 чэрвеня** 75-годдзе адзначаў Вячаслаў Рагойша, беларускі літаратуразнаўца, крытык, педагог.

**5 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Кастуся Шавеля (1912 — 1987), беларускага паэта.

**5 чэрвеня** 80 гадоў споўнілася Барысу Беляжэнку, беларускаму паэту, журналісту.

**5 чэрвеня** 80-гадовы юбілей адзначыў Валянцін Занковіч, беларускі архітэктар, скульптар.

**5 чэрвеня** 60 гадоў адсвяткавала Вераніка Віткоўская, беларускі мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, графік, жывапісец.

**5 чэрвеня** 60 гадоў споўнілася Ігару Кашкурэвічу, беларускаму графіку, жывапісцу.

**6 чэрвеня** — 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Сеўрука (1932 — 2005), беларускага партыйнага і грамадскага дзеяча, літаратуразнаўца, публіцыста, перакладчыка.

**6 чэрвеня** 70 гадоў адзначыў Алег Ойстрах, беларускі мастацтвазнаўца, педагог.

**6 чэрвеня** 70 гадоў споўнілася Валерыю Даўгалу, беларускаму жывапісцу-манументалісту, акварэлісту.

**6 чэрвеня** 70-гадовы юбілей адсвяткаваў Уладзімір Матрос, беларускі акцёр, рэжысёр, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

**7 чэрвеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Яўгена Батурына (1912 — 2013), беларускага і расійскага акцёра, рэжысёра. З 1987 г. жыў у Расіі.

**7 чэрвеня** — 85 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Герчыка (1932 — 2008), беларускага празаіка, публіцыста, перакладчыка.

**8 чэрвеня** 85 гадоў споўнілася Барысу Чудакову, беларускаму ваеннаму дырыжору, заслужанаму артысту БССР.

**8 чэрвеня** 75 гадоў адзначыла Лідзія Манакова, беларускі рэжысёр, тэатральны педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**10 чэрвеня** — 115 гадоў з дня нараджэння Барыса Брадзянскага (1902 — 1945), беларускага сцэнарыста, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**11 чэрвеня** 75-годдзе адзначае Яраслаў Пятроў, беларускі спявак, народны артыст БССР.

## Ідзе падпіска на II паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 50 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 70 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 3р. 00 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 60 к. | 63880 |

# АДРАДЖЭННЕ СУПОЛЬНЫХ ПАМКНЕННЯЎ

**Цікавыя праекты развіцця нацыянальных культур сёння ў прамой залежнасці ад супольных памкненняў яднаць гуманітарную прастору**

Такім лейтматывам вызначаліся на гэтым тыдні дзве сустрэчы ў Дзелавым і Культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. На круглы стол «Дыпламатыя слова: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання ў кантэксце сусветнай культуры» сабраліся беларускія і расійскія літаратары, навукоўцы, кіраўнікі розных масмедыя, прадстаўнікі дыпламатычных місій краін СНД, акрэдытаваныя ў Маскве. Другая сустрэча — сумеснае пасяджэнне Савета па гуманітарным супрацоўніцтве (СГС) і праўлення Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва (МФГС) дзяржаў — удзельніц СНД.



### Францыск Скарына як сімвал узаемапранікнення культур

На круглым стале, пасяджэнне якога вёў намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алесь Карлюкевіч, першая частка дыялогу была так ці інакш звязана з 500-годдзем беларускага кнігадрукавання. Прыемна, што гэтая дата сталася і прадметам грунтоўных разваг з расійскага боку. Цікавым з розных пунктаў гледжання падаецца, у прыватнасці, і выступленне прадстаўніка Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі вядомага гісторыка і публіцыста Генадзія Кудзія. Ён паспрабаваў зрабіць рэтраспекцыю ролі Францыска Скарыны, вытокаў беларускага кнігадрукавання ў кантэксце ўсходнеславянскай кніжнай гісторыі. Сваімі думкамі пра год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання на круглым стале падзяліліся дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктар філалагічных навук Іван Саверчанка, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа доктар філалагічных навук Ігар Капылоў, першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, празаік, публіцыст Алена Стэльмах. І ў кожным з досыць важкіх, грунтоўных выступленняў гучала думка пра вартасці засваення спадчыны мінулых стагоддзяў, якая так ці інакш мае дачыненне і да расійскай гуманітарнай прасторы, і ўвогуле да гісторыі сусветнай культуры.

Па традыцыі сустрэчы такога кшталту наведвае шмат пісьменнікаў, арганізатараў літаратурнага і кніжнага жыцця ў Маскве, Расіі. Вось і зараз на круглы стол завіталі галоўны рэдактар «Роман-газеты» празаік Юрый Казлоў, пісьменнікі Алесь Кажадуб, Сяргей Главюк, Анатоль Усаў. У многіх з іх — беларускае паходжанне. Паэт і публіцыст Анатоль Усаў родам з Гомельшчыны, працаваў некалі першым сакратаром Брэсцкага абласнога камітэта камсамола. Алесь Кажадуб нарадзіўся на Берасцейшчыне, пачынаў як пісьменнік у Мінску, выдаў некалькі кніг на беларускай мове. Сяргей Главюк — перакладчык беларускай паэзіі, укладальнік анталогіі беларускай паэзіі на рускай мове. Удзел у круглым стале ўзяў і старшыня ФНКА «Беларусы Расіі» Сяргей Кандыбовіч.

Адметным можна лічыць выступленне загадчыка аддзела міжнародных сувязяў Інстытута сусветнай літаратуры Расійскай акадэміі навук доктара філалагічных навук Казбека Султанава. Асабліվую ўвагу ён звярнуў на разладжанасць нацыянальных літаратур. Дакладней, на тое, што сённяшнія грамадскія і дзяржаўныя інстытуцыі не могуць забяспечыць свабоднае карыстанне здабыткамі нацыянальных літаратур, нацыянальных культур у іншых краінах, у межах усёй Садружнасці. Нават далёка не заўсёды гэта атрымліваецца ў Расіі ў дачыненні да літаратур народаў Расіі. Што пішуць сёння аварцы, лезгіны, калмыкі, удмурты, татары, башкіры, чувашы і пісьменнікі іншых народаў? Як пазнаёміцца з іх творамі? Як данесці слова, думкі іншых народаў да шырокага кола чытачоў у СНД? Ці ёсць на фоне хаця б Еўразійскага інтэграцыйнага працэсу разуменне пра еўразійскую інтэграцыю літаратур, культур?.. Як адказаць на гэтыя пытанні, калі змяншаецца фармат зносін з медыйнымі, кніжнымі рэсурсамі і з боку краін СНД? Напрыклад, часопіс «Дружба народов», без якога наўрад ці магчыма паўнавартасна вывучаць сучасныя літаратуры постсавецкіх краін, у адну з дзяржаў прыходзіць усяго ў колькасці... 2 экз. А можа быць, у якую іншую — і не прыходзіць зусім? Шмат якія агучаныя пытанні, безумоўна, толькі пытаннямі і засталіся.

Сярод удзельнікаў круглага стала было нямала палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, кіраўнікоў беларускіх і расійскіх масмедыя. Шэф-рэдактар газеты «Союз. Беларусь — Россия» Вольга Герасіменка заўважыла, што трэба шырэй выкарыстоўваць тыя інфармацыйныя рэсурсы, якія займелі аўтарытэт у чытачоў. Размова найперш — пра СМІ Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. А гэта не толькі «Союз», а яшчэ і газета «Союзное вече», часопіс «Союзное государство», інтэрнэт-партал Саюзнай дзяржавы. Трэба як мага шырэй расказваць пра беларуска-расійскія літаратурныя стасункі, пра нацыянальныя літаратуры ўвогуле, пра пісьменнікаў і найболей цікавыя творы, якія могуць быць з'явамі для чытача ў розных краінах, незалежна ад таго, дзе, у якой сталіцы ці якой правінцыі працуюць паэты, празаікі, драматургі, незалежна ад таго, у якой краіне гэтыя творы напісаны. Вось цікавіць жа драматургічная Скарыніяна расіян — і спектакль магілёўскага тэатра ўжо едзе на гастролі ў Маскву, на восень запланавана пастаноўка ў Дзелавым і Культурным комплексе беларускай амбасады.

### Садружнасць умацоўваюць знаёмствы

Адно з важных пытанняў, якое абмяркоўвалася і на круглым стале, і на згаданым сумесным пасяджэнні Савета па гуманітарным супрацоўніцтве (СГС) і праўлення Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва (МФГС) дзяржаў — удзельніц СНД, — наданне інтэрнэт-праекту Выдавецкага дома «Звязда» «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці» статусу міжнароднага гуманітарнага партала. Для ўдзельнікаў абедзвюх сустрэч у ДКК Пасольства Рэспублікі Беларусь вельмі падрабязна расказаў пра «Сугучча...» **sozvuchie.by**, прэзентаваўшы многія электронныя старонкі праекта, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда», галоўны рэдактар газеты «Звязда» Павел Сухарукаў. Сапраўды, унікальны электронны рэсурс, здзейснены на беларускай платформе, патрабуе развіцця, пашырэння. Сёння мадэрыраваць старонкі «Літаратурны Азербайджан», «Літаратурная Арменія», «Літаратурны Казахстан», «Літаратурны Кыргызстан», «Літаратурная Малдова», «Літаратурны Туркменістан», «Літаратурны Таджыкістан», «Літаратурная Украіна», «Літаратурная Расія», «Літаратурны Узбекістан», як і іншыя тэматычныя электронныя раздзелы праекта, дапамагаюць партнёры, спецыялісты, пісьменнікі з іншых краін Садружнасці. Уражлівы прыклад электроннага развіцця і пашырэння літаратурных сувязяў — дзейнасць казахскіх сяброў. З іх дапамогай на беларускай платформе адкрыліся інтэрнэт-старонкі «Немат Келімбетаў», «Абай крочыць па планеце», «Свет Мухтара Аўэзава». З іх дапамогай спраектаваны і ў найбліжэйшы час пачнуць дзейнічаць новыя інтэрнэт-старонкі, якія будуць прысвечаны іншым класікам казахскай літаратуры, — Джамбулу, Алжасу Сулейменаву, Ануару Алімжанаву, Абдзіжамілу Нурпеісаву, Мухтару Шаханаву, Ільясу Есенберліну... Несумненна, праз беларускі інтэрнэт-рэсурс, дзе, дарэчы, размяшчаюцца матэрыялы на розных мовах народаў свету (не толькі на англійскай і мовах народаў Садружнасці, але і на нямецкай, кітайскай ды іншых), пра казахскую ў дадзеным выпадку літаратуру даведаюцца ў самым далёкім свеце. І такое ж спрыянне ад «Сугучча...» — іншым нацыянальным літаратурам краін Садружнасці. А значыць — пашырыцца ўвага і да саміх краін, сённяшняга стану сацыяльнага, агульнага развіцця краін і народаў.

Відавочна, што новы партал запатрабуе сучасных падыходаў, стварэння інтэрнэт-форумаў, наладжвання шырокага выхаду ў сацыяльныя сеткі, правядзення відэамастоў, відэаканферэнцый, арганізацыі відэапрэзентацый і абмеркавання мастацкіх і публіцыстычных твораў, віртуальных сустрэч з рознымі пісьменнікамі. Міжнародны літаратурна-мастацкі ці мастацка-публіцыстычны партал — гэта і ўнікальны шанц стварыць электронную базу беларускай літаратуры. Не выключаны і адукацыйны кірунак у рабоце «Сугучча...». Несумненна, усе ідэі, звязаныя з новым праектам (сама ідэя якога атрымала падтрымку ў маштабах Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падтрымку Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва), патрабуюць узважлівага абмеркавання і асэнсавання.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА,**
**г. Масква.**

# Быць пачутым у свеце

**Алена СТЭЛЬМАХ, першы намеснік старшыні ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі»:**

— Хто ён — герой, які б мог захапіць сучасных дзяцей, быць для іх прыкладам? Ці не Францыск Скарына, у асобе якога спалучаецца загадкавае і таямнічае, што хаваюць пяць стагоддзяў, калі знакаміты беларус спрычыніўся да незвычайнай на той час справы — кнігавыдання. Для дзяцей ён і сёння ўзор таго, як важна рабіць адкрыцці, каб асвятляць чалавецтву шлях наперад.

Кніжны праект для юных беларусаў — «У гасцях у Францыска Скарыны», які ажыццявіў Саюз пісьменнікаў Беларусі пры непасрэдным удзеле творчай групы Ева НЭММ, якраз і пацвердзіў, што і жыццёвы шлях знакамітага друкара, і выдадзеная ім першая для простых людзей кніга выклікаюць вялікую цікавасць да нашай гісторыі, пісьменства, спадчыны. Дзеці не хаваюць здзіўлення: «Няўжо калісьці кніг не было?» Жыццё сучаснага чалавека без кніг немагчыма. «Кнігі адкрываюць перад чытачом дзівосны свет, вучаць быць мудрым, добрым, справядлівым», — разважаюць юныя беларусы і шукаюць гэткіх жа апантаных прыхільнікаў чытання.

Пасля таго, як прэзентацыя скарынаўскага праекта адбылася ў многіх кутках нашай краіны, геаграфія ўвагі да яго значна пашырылася.

«У гасцях у Францыска Скарыны» пабывалі студэнты Калмыцкага нацыянальнага ўніверсітэта, дашкольнікі Кабардзіна-Балкарыі. У Дагестане беларускі літаратурны праект быў прадстаўлены ў Рэспубліканскай дзіцячай бібліятэцы, у навучальных установах Махачкалы. Паэтычнае слова пра Францыска Скарыну і кнігу, перакладзеную на адзінаццаць моў Паўночнага Каўказа, транслявалі дзеці падчас незвычайнай для іх прэзентацыі — знаёмства з Беларуссю, з 500-годдзем беларускага кнігадрукавання.

Так, дзякуючы Францыску Скарыну і кнізе для дзяцей пра знакамітага беларуса кола сяброў нашай краіны значна пашыраецца. Кніга — найлепшы памочнік, каб быць пачутым у свеце.

# З АДЗНАКАЙ!

Кніга-альбом «Сусветная спадчына Францыска Скарыны» (аўтар А. Суша, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі») атрымала Гран-пры XIV Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД.

На конкурс, што адбыўся 5 — 6 чэрвеня ў Маскве, кнігавыдаўцы Беларусі прадставілі кнігі па ўсіх заяўленых намінацыях і акрамя Гран-пры прывезлі дадому 5 дыпломаў І ступені, 3 дыпломы ІІ ступені, 1 дыплом ІІІ ступені і 1 спецыяльны дыплом.

У прыватнасці, у намінацыі «Мая краіна» дыплом І ступені — у кнігі «Традыцыйны беларускі строй» М. Віннікавай, П. Багдан (Выдавецкі дом «Беларуская навука»), а ў намінацыі «Кніга для дзяцей і юнацтва» дыплом І ступені атрымала выданне «Чаму Вожык не стрыжэцца?» А. Пісьмянкова («Мастацкая літаратура»). У намінацыі «Надрукавана ў Садружнасці» дыплом І ступені дастаўся кнізе-альбому «Тураўская рапсодыя» (Выдавецтва «Чатыры чвэрці»). У намінацыі «Дыялог культур» дыплом ІІ ступені прысуджаны кнізе «Сустрэчы з роднымі і блізкімі» (Выдавецкі дом «Звязда»). А ў намінацыі «Мастацтва ілюстрацыі» дыпломам ІІ ступені адзначана багата ілюстраваная П. Татарнікавым кніга У. Арлова «Айчына: маляўнічая гісторыя. Пекла Рагнеды ды Касцюшкі» («Тэхналогія»).

# «СЦІХІ» ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ:

## новы тэрмін у беларускім вершазнаўстве



Вячаслаў РАГОЙША

Звычайна, калі гавораць пра вершаванне Францыска Скарыны, маюць на ўвазе тры яго ўласныя сілабічныя вершы: выклад дзесяці запаведзяў (прадмова да кнігі «Выхад»), чатыры вершаваныя радкі з прысвячэннем да кнігі «Іоў» («Богу в троици единому...») і два радкі — з прадмовы да кнігі «Эсфір» («Не копай под другом ямы...»). І ўсё. У той жа час набытак Скарыны-вершатворцы, калі мець на ўвазе не столькі яго ўласную, колькі перакладную творчасць, — значна, непараўнальна багацейшы.

З усіх літаратуразнаўчых тэрмінаў (а іх у лексіконе Францыска Скарыны налічваецца звыш трох дзясяткаў) найчасцей, бадай, сустракаюцца тыя, што цесна нітуюцца з вершазнаўствам: «*стих*», «*стишок*», «*песня*», «*припел*»... Словы «верш» або «вірш», якія даволі дакладна маглі б характарызаваць тры названыя вышэй вершы, не ўжытыя ім ні разу. Выдатны рускі вершазнавец М. Гаспараў, гаворачы, што верш як маўленчая з'ява — гэта тэкст «павышанай важнасці, разлічаны на запамінанне і паўтарэнне», адначасова падкрэсліваў: «Само слова "стих" па-грэчаску значыць "рад", яго лацінскі сінонім *versus* (адсюль "версіфікацыя") значыць "паварот", "вяртанне да пачатку рада"; а "проза" па-латыні азначае маўленне, "якое вядзецца проста ўперад", без усялякіх паваротаў».

У гэтым значэнні — як «рад», «вяртанне да пачатку рада» — слова «стих» прыйшло з грэчаскай мовы ў стараславянскую, а праз яе — і ў старажытнарускую (агульнаўсходнеславянскую), затым старабеларускую. Яно замацавалася найперш у сакральных тэкстах і там таксама азначала «рад», «закончаная фраза».

Так «стих» найперш разумеў і Францыск Скарына. Рады, закончаныя фразы, часам суплёт гэтых фраз у невялікія фразавыя перыяды ў розных літургічных тэкстах (малітвах, гімнаграфіі і інш.) на пісьме нярэдка выдзяляліся абзацамі, а ў вусным маўленні — паўзамі або «напевам ці блізкай да напеву аднастайнай інтанацыяй» (М. Гаспараў). У тэкстах Бібліі кожны такі *сціх* пачаў пазней нават нумаравацца. Ад *сціха* ў літургічнай паэзіі, заснаванай на напеве (гімн, акафіст, канон, ікос, кандак, трапар і інш.), — цэлы шэраг вытворных слоў: «Стихера — название пяти учительных книг ветхого завета; название православного богослужебного песнопения»; «Стихиръ — богослужебная книга, сборник стихиръ»; «Стиховня — название стихиры с запевом из псалмов Давыдовых» і інш. (паводле: І. Срезневский. Словарь древнерусского языка. Т. 3. Ч. 1. М., 1989, с. 514 — 515).

Падзел сакральнага тэксту на «стихи» як асобныя кароткія выказванні з іх аднолькавым інтанацыйна-меладычным малюнкам, падмацаваным сінтаксічным паралелізмам і аднолькавымі пачаткамі/заканчэннямі суседніх фраз, рэгулярны паўтор гэтых «стихов» запачаткавалі своеасаблівы рытм гэтак званага *малітваслоўнага (біблейскага, кандакарнага) верша*. Па сведчанні таго ж М. Гаспарава, узнік ён у часы Кірыла і Мяфодзія (IX ст.) як перайманне антыфонных сілабічных страфаў візантыйскага літургічнага верша, дзе кожнаму сілабічнаму радку адной страфы адпавядаў роўнаскладовы радок наступнага радка. Потым з Маравіі ён перайшоў у Балгарыю, з Балгарыі — на Русь (X — XI ст.). Вось такім шляхам разам з хрысціянствам усходняга абраду, з Бібліяй, іншай богаслужбовай літаратурай малітваслоўны верш трапіў да ўсходніх славян, у тым ліку да беларусаў. Аднак са знікненнем у старажытнарускай мове (X — XII ст.) ераў (кароткіх галосных ъ і ь) «роўнаскладовасць гэтых антыфонаў разбурылася і малітваслоўны верш ператвараўся ў падабенства чыстатанічнага свабоднага верша без рытму і рыфмы, стаў абапірацца на сінтаксічны паралелізм і традыцыйныя анафары».

Гісторыкі беларускай паэзіі (Я. Карскі, Я. Барычэўскі, А. Вазнясенскі, І. Ралько, М. Грынчык і інш., у тым ліку аўтар гэтага артыкула) на малітваслоўны верш асаблівай увагі дагэтуль не звярталі. Нават у самай апошняй па часе выдання двухтомнай акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI — XIX стагоддзяў», у раздзеле «Паэзія» (аўтары С. Кавалёў і І. Саверчанка), хоць і гаворыцца, што «з прыняццем у X ст. усходнімі славянамі хрысціянства і яго пашырэннем на беларускіх землях паралельна з вусна-паэтычнай народнай творчасцю пачала развівацца кніжная паэзія, найперш літургічная гімнаграфія», тым не менш з пункту гледжання вершаванай мовы гэтая «кніжная паэзія» зусім не аналізуецца. Больш за тое, літаральна ў наступным абзацы тэксту «Гісторыі...» робіцца «скачок» адразу ў XVI ст., калі «на хвалі Рэнесансу зарадзілася свецкая кніжная паэзія, заснавальнікам якой справядліва лічыцца Францыск Скарына». Але той жа Скарына, апрача ўсяго, калі і не заснавальнік літургічнай паэзіі з яе малітваслоўным вершам, то адзін з яе беларускіх класікаў!

Да таго ж, разам з раптоўным «скачком» з X у XVI ст. з гісторыі беларускага верша выпадае, па сутнасці, цэлых пяць стагоддзяў. А ў гэты ж перыяд квітнела народная вусна-паэтычная творчасць з яе фальклорным вершам у двух яго галоўных разнавіднасцях: песеннай і інтанацыйна-сказавай.

На ўзнікненне «стихового ритма» малітвы аказалі ўздзеянне таксама іншыя рытмаваральныя сродкі: паўтор аднолькавых сінтаксічных канструкцый, сэнсавых клішэ выказванняў (зварот да Бога + указанне на Яго літасць + канкрэтная просьба верніка), наяўнасць анафарычных зачынаў, адных і тых жа лексем, граматычных формаў... Выразны *сціхавы рытм* праз сваю эстэтычную функцыю ўздзейнічаў, у сваю чаргу, на псіхіку верніка, выклікаў у іх станоўчыя эмоцыі, стан душэўнага ўздыму, эстэтычнага перажывання. Менавіта ў гэтым — асноўная прычына звароту да вершаванага рытму, да «стиха» як у шматлікіх творах Кірылы Тураўскага, у яго малітвах, казаннях, прытчах, словах, так і ва ўсёй літургічнай паэзіі.

Шматразовае ўжыванне Кірылам Тураўскім у сваіх малітвах тэрміна «*стих*» можна лічыць сведчаннем яго прысутнасці ў беларускай літургічнай літаратуры і беларускай мове далёкага XII ст. Выкарыстоўваўся малітваслоўны верш у богаслужбовых тэкстах Беларусі і пазней, у тым ліку ў творах Францыска Скарыны — арыгінальных (спарадычна) і перакладных (перманентна), а таксама яго паслядоўнікаў (Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і інш.). Гэта дае нам усе падставы ўвесці яго ў гісторыю беларускага вершавання, прычым не толькі як асобны від верша, але і як асобную сістэму вершавання.

Цяпер паглядзім, што ўкладаў у разуменне «стих» (а значыць — і ў паняцце «малітваслоўны верш») Францыск Скарына. Яго ён выкарыстоўваў неаднойчы ў прадмовах да перакладаў «во всю Бивлию», да кніг «Псалтирь», «Иов», «Притчи Саломона», «Премудрость божия», «Плач Ереемиин», «Малая подорожная книжка» і інш.



З XVI стагоддзя ў манастырскіх бібліятэках зберагаліся рукапісныя, а пазней — друкаваныя малітваслоўныя кнігі.

У свой час выйшаў з друку ўкладзены У. Анічэнкам трохтомны «Слоўнік мовы Скарыны», дзе слова «стих» чамусьці адсутнічае, хоць ёсць яго памяншальны варыянт: «стишокъ». Праўда, без тлумачэння значэння, але з двума прыкладамі: «*На початку кажъного **стишъка** слово едино*» ("Плач Ераміі"); *книги рекомые погреческу псальтиромъ... имеють в собе кафизъмъ двадесеть, псалъмовъ польтораста, **стишьковъ** или припеловъ две тысящи* ("Кніга Быцця")».

Крыху пазней значэнне гэтага слова раскрылі аўтары грунтоўнага «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». Там — тыя самыя прыклады з мовы Скарыны, але ўжо з тлумачэннем: «**Стишок** *наз. памяншн. ад* стихъ у 2 знач.» [Вып. 32, с. 396]. «Гістарычны слоўнік...» пад першым значэннем мае на ўвазе «верш» у разуменні асобнага вершаванага твора. Затое пад 2-м значэннем — «абзац біблейскага тэксту» з наступнымі прыкладамі з прадмоў Скарыны да перакладаў кніг Бібліі: «*имена словъ великимъ писмомъ розъдельне межи **стихами** положены суть*» ("Кніга прамудрасці"); *царь Соломонъ... сопсалъ своего складаниа **стиховъ** пять тысещей* ("Прытчы Саламонавы")». Відавочна, гэтае 2-е значэнне слова «стих» («абзац біблейскага тэксту») і з'яўляецца галоўным у скарынаўскім тэрміналагічным абыходку. Сведчыць пра гэта і той прыклад, якім (думаю, памылкова) ілюструецца ў «Гістарычным слоўніку...» 1-е значэнне тэрміна: *царь Соломонъ многие... притчи и **стихи** молвилъ* («Кніга прамудрасці»). Ні ў «Прытчах Саламонавых», ні ў «Песні песняў» Саламона няма ніводнага яго «стиха» ў значэнні «асобнага верша» («стихотворения»). Тут усе тэксты — і аповедныя, і лірычныя — проста раздзелены на падобныя па сваёй сінтаксічнай будове, адпаведна — і вымаўленню, фраза-інтанацыйныя комплексы, на «стихи». Аддзяляюцца ж яны адзін ад аднаго пры дапамозе тлустых кропак.

Улічваючы ўсё вышэйсказанае, думаецца, было б правільным карыстацца ў беларускамоўнай вершазнаўчай літаратуры не толькі *вершам* (ад лац. *versus*), але і запазычаным з грэцкай мовы словам *сціх* (ад грэч. *stichos*). Яно, магчыма, для сучаснай нашай літаратурнай мовы гучыць не зусім звычна, але як тэрмін, вершазнаўчы гістарызм арганічна кладзецца ў шэраг падобных царкоўных паняццяў: *сціхера, сціхіра, сціхірар, сціхоўня, сціхаслоўе*... Некаторыя абеларушаныя тэрміны з заменай «сціх» на «стых», накшталт у слове «стыхіра», патыхаюць штучнасцю і нагадваюць хутчэй нейкую «стыхію», а не слова, якое дало ім найменне...

Адсутнасць тэрміна «*сціх*» вядзе да блытаніны і ў вершазнаўчай літаратуры. Так, пішучы ў энцыклапедычным даведніку «Францыск Скарына і яго час» пра Скарыну як перакладчыка і рэдактара Бібліі, У. Свяжынскі заўважае: «Імкненне да паўнаты выдаваемай Бібліі відаць з таго, што ў праваслаўным Псалтыры 9 выбраных песень, у Скарыны ж іх 10. У 13-м псалме ёсць тры **вершы** [тут і далей падкрэслена мной. — **В. Р.**], якіх няма ў царкоўнаславянскіх спісах. У кнізе "Эсфір" Скарына памяняў месцамі раздзелы 10-ы і 11-ы, у асобны раздзел вылучыў пачатак 13-га, раздзел 12-ы і пачатак 14-га апусціў зусім. У канцы прадмоў да кніг "Выхад", "Эсфір" і "Іоў" ён змясціў уласныя **вершы**, што было несумяшчальным з артадаксальнымі адносінамі да царкоўных кніг». У гэтым выказванні, як мы бачым, пад вершамі псалма маюцца на ўвазе *сціхі («стихи»)*, пад уласнымі вершамі Скарыны — звычайныя сілабічныя *вершы* (*«стихотворения»*). Аднак мала хто з чытачоў зразумее гэтую істотную розніцу. Аналагічных прыкладаў нямала.

І яшчэ адзін з доказаў на карысць увядзення тэрміна «*сціх*» у беларускую вершазнаўчую тэрміналогію. Слова «верш», як ужо было заўважана, мы не знойдзем у лексіконе Францыска Скарыны. У той час яно яшчэ шырока не ўжывалася ў нашым пісьменстве. Так, як сведчыць «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы», у старабеларускую мову «верш» увайшоў толькі ў XVI ст., і хутчэй за ўсё прыйшоў са старажытнапольскай, а не непасрэдна з лацінскай. Тэрмін гэты тады ж стаў прыжывацца і ў многіх іншых еўрапейскіх мовах, за выключэннем рускай (ням. *vers*, англ. *verse*, франц. *vers* і інш.). Прычым працяглы час у нас гэтыя тэрміны выкарыстоўваліся паралельна, як сінонімы. Скажам, у «Вопросах и ответах православному зъ папежником» (Вільня, 1603) сустракаем выраз: «вѣршы або стихи до того, што читал». Пра тое ж сведчыць і «Лексикон славеноросскій именъ толъкование» Памвы Бярынды (Куцейна, 1653): «Стіхъ: Порядок, вѣрш». Праўда, з часам слова «стих» пачало выходзіць з актыўнага ўжытку, стала замяняцца словам «верш». Але гэта ўжо адбылося пасля Скарыны. Прычым у гэтым слове амбівалентнае яць («ѣ») у пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага продкі сучасных беларусаў, хутчэй за ўсё, прачытвалі як «е» («верш»), продкі ўкраінцаў — як «і» («вірш»), што назаўсёды замацавалася ў літаратурным маўленні двух суседніх народаў.

Відавочна, і лацінскае найменне «*versus*», і польскае «*wersz*», і чэшскае «*verš*» Скарына чуў, і не раз, паколькі тыя мовы добра ведаў, звяртаўся да іх, перакладаючы Біблію, чытаючы некаторыя арыгінальныя вершаваныя творы на тых мовах. Чаму ж у такім разе Францыск Скарына — хаця б як сінонім — ні ў сваіх перакладах асобных кніг Бібліі, ні ў прадмовах і пасляслоўях да іх ні разу не ўжыў слоў *верш/вірш*? Думаецца, таму, што ён ужо адрозніваў свецкі сілабічны *верш* ад малітваслоўнага інтанацыйна-сказавага *сціха*. Апрача таго, нават у дробязях, у тым ліку ва ўжыванні вершазнаўчай тэрміналогіі, ён быў сарыентаваны на ўсходнеславянскую Русь, з яе тагачаснай літаратурнай «рускай мовай», з яе праваслаўнай грэка-візантыйскай царквой. Не толькі «напред ко чти и к похвале Богу» ён «повелел» Біблію «тиснути рускыми словами, а словенским языком», а і дзеля сваіх праваслаўных землякоў, прычым, як ён пісаў, «наболей с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил». А для літургічнай літаратуры на тым «языку» *верш* быў яшчэ чужаком.

# Чакацьмем ураджаю!

У звыкла кансерватыўным «Полымі» так нязвыкла глядзяцца апавяданні Маргарыты Латышкевіч, што на іх немагчыма не звярнуць увагу хаця б праз гэты кантраст. Змешчаныя ў часопісе творы лёгка падзяляюцца паводле тэматыкі: *пра* дзяцей, але *не* зусім *для* дзяцей («Два літры мора», «Доктар Ціханава», «Пачатак восені») і пра дарослых («Званіў», «Раман з наёмнікам»).

Іронія, досціп на мяжы з сур'ёзным унутраным перажываннем — адметнасць стылю М. Латышкевіч. Менавіта на такой хвалі — ад іроніі да трагедыі — «дзіцячыя» апавяданні пераходзяць у «дарослыя». Сюжэт закручваецца вакол адной трапна заўважанай псіхалагічнай дэталі: часам гэта тое, што ляжыць на паверхні, але што не кожны здольны ўбачыць; часам — будучыня, якая толькі ледзь улоўнымі рухамі, ледзь чутнымі словамі дае аўтару магчымасць яе прадбачыць. Такое апавяданне «Пачатак восені», у якім гераіня, назіраючы за «свежанькімі» першакласнікамі, «праектуе» іх дарослыя жыцці.

Апавяданне «Раман з наёмнікам» вылучаецца сярод астатніх: тут М. Латышкевіч не стварае псіхалагічны партрэт праз адметныя дэталі, але толькі перадае размову рэдактара з чалавекам, які лічыць сябе таленавітым пісьменнікам. Змест дыялогаў не патрабуе дадатковых каментарыяў, а тэма твора як мага лепей ілюструе стан сучаснай беларускай літаратуры. Не ў тым сэнсе, што да рэдактараў звяртаюцца толькі графаманы, якія праз сваю наіўнасць сапраўды ўважаюць сябе за мастакоў слова. Сюжэт «Рамана з наёмнікам» будзе цікавы і зразумелы толькі тым, хто мае дачыненне да літаратурнага асяроддзя, а сітуацыя, калі чытаюць творы сучаснай літаратуры па большай частцы менавіта тыя, хто і сам іх стварае, — паказальная для характарыстыкі цяперашняга стану культуры. У апавяданні таксама багата гумару, досціпаў, іроніі, але чым даўжэй працягваецца гутарка гераіні з Лёнькам, які напісаў раман пра іншапланетнага змагара з усясветным злом Анхельям (*«Тут жа ў мяне іншая планета, не Зямля! Тут жа прынцэса! І ў іх меч! І наёмнік, карацей, яе ратуе, а пасля яна пачынае ў яго… гэта самае…* ), тым часцей іронія саступае месца сарказму. Зрэшты, праблема ў творы агучваецца сур'ёзная: Лёнька, вядома, не пісьменнік, але паколькі не знайшлося смелага чалавека, які б яму гэта растлумачыў, ён піша раманы і носіць іх па рэдакцыях часопісаў і выдавецтваў, бо шчыра перакананы, што «*тэма не збітая, героі арыгінальныя*» і «*такога раману ў нас тут яшчэ не было*», а паколькі працаваў ён над творам «*па дзве гадзіны на дзень*», то ні рэдактар, ні карэктар не патрэбныя. Дык хто больш вінаваты перад айчынным прыгожым пісьменствам: Лёнька, наіўны ў сваёй бездапаможнай бяздарнасці, ці рэдактар, які ўсё бачыць, усё разумее, ды баіцца пакрыўдзіць знаёмага чалавека?

Маргарыта Латышкевіч у кожным апавяданні найперш псіхолаг. Прапанаваныя ў майскім «Полымі» творы могуць быць выдатнай ілюстрацыяй да артыкулаў па псіхалогіі. І гэтага пакуль больш, чым уласна мастацкага. У добрым псіхалагічным грунце ёсць трывалае мастацкае зерне, і хочацца спадзявацца, што справа чытача — толькі дачакацца ўраджаю.

**Жана КАПУСТА**

# ВАНДРОЎКІ Ў ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ




**Выдатна**: канцэпцыя нумара. Так і хочацца адкінуць усе справы, узяць квіткі і ехаць да берагоў Заходняй Дзвіны, гартаючы пяты нумар «Маладосці», прысвечаны Віцебшчыне. Краязнаўца Дзяніс Юрчак знаёміць з гісторыяй Віцебска, Кацярына Захарэвіч аглядае карпусы Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, муры якога памятаюць выкладчыкаў і студэнтаў езуіцкага калегіума, драўляную галаву Сакрата і заняткі па фехтаванні. Яшчэ адзін цвік нумара — «Прыгоды руін» Святланы Воцінавай. Галоўны рэдактар часопіса размаўляе з Уладзімірам Цвіркам, які не толькі фатаграфуе малавядомыя аб'екты старой архітэктуры, але і ратуе іх ад зарасніку ды смецця. Гэта публікацыя нібы заклікае не прамінаць старажытныя вёсачкі, якія сустракаюцца ў падарожжы, — вядома, калі вам пашанцавала вандраваць на аўто ды не вельмі спяшацца.

Выдатнае ўражанне пакідаюць інтэрв'ю з вясновымі юбіляркамі — Раісай Баравіковай і Аленай Масла. Расповед Алены Сцяпанаўны пра творчыя планы падмацоўваецца публікацыяй урыўка з аповесці «Золатка, бяжы!». У гэтым творы пісьменніца вяртаецца на планету маленства і занатоўвае вясёлыя прыгоды ды павучальныя эпізоды — распавядае пра эксклюзіўную стрыжку, няўдалы эксперымент з вызначэннем тэмпераменту суседскага пеўня, непрадказальныя наступствы ветлівага вітання з вясковай бабулькай... Пра Алену Масла як майстра аўтарскай казкі піша літаратуразнаўца Таццяна Пятроўская.

**Сумніўна**: старонкі часопіса «Литературный объектИФФ». Літаратурны часопіс Полацкага ўніверсітэта — магчымасць узгадаць атмасферу студэнцкага жыцця, задумацца пра рэалізацыю адпаведнага праекта ва ўласнай альма-матар. Развагі Алены Чулавай могуць зацікавіць чытачоў «Маладосці», а іншым аўтарам універсітэцкага выдання, зыходзячы з прадстаўленых тэкстаў, хочацца пажадаць хуткага творчага сталення.

**На суд чытача**: паэзія. Маладыя аўтары, якія нарадзіліся на Віцебшчыне, аддаюць перавагу паэтычнай творчасці. Адпаведна, у гэтым нумары прадстаўлены вершаваныя падборкі дзевяці творцаў, сярод якіх вылучаюцца вершы Уладзіміра Лобача — праніклівыя, зграбныя, дарослыя (у сэнсе — ужо не юнацкія). Творы ж некаторых аўтараў, верагодна, былі прынятыя ў друк толькі пасля размовы з загадчыкам аддзела, скіраванай на прадухіленне стылістычных ды іншых памылак. Адна цытуем найлепшае: *Калодзежы з жураўамі / падабаюцца больш за тыя, / што з калаўротам, / бо, дастаўшы вады з падзем'я, / заўсёды зірнеш на неба* (Уладзімір Лобач).

***




**Выдатна**, што спадчына класікаў беларускай літаратуры не знікае ў бездані часу, а вяртаецца праз гады і дзесяцігоддзі водгуллем згадак, новых архіўных знаходак і ліставанняў. Майскі нумар часопіса «Полымя» прапаноўвае знаёмства з чарговай падборкай лістоў народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. 14 лістоў, падрыхтаваных да друку Алесяй Шамякінай, стануць красамоўным штрыхом да псіхалагічнага партрэта беларускага пісьменніка. «...не ўсё, напісанае ў дзённіку пад настрой, варта выносіць на людзі» — піша І. Шамякін сыну Пятра Глебкі Юрыю. Гэта ж, вядома, можна сказаць і пра публікацыю асабістага ліставання, як бы нам ні хацелася глыбей зазірнуць пад руку класіку. Між тым праблемы, якія агучваюцца ў асобных лістах (да В. Рабкевіча, Ю. Броўкі, А. Логінава, А. Вярцінскага), даюць выдатную характарыстыку свайму часу і літаратурнаму асяроддзю пэўнага перыяду. Спакойны, разважлівы тон, у якім вытрыманы ўсе звароты і адказы Івана Пятровіча, сапраўды могуць быць добрым напамінам занадта экспрэсіўнай пісьменніцкай супольнасці пра сапраўдную сутнасць разумення інтэлігентнасці.

**Няма сумневу**, што «аповед-згадка аб аднае сустрэчы» «Апошнія» Мікола Гіля — цікавая кампазіцыйнае вырашэнне падачы сюжэта. Старая жанчына расказвае гісторыю свайго няпростага жыцця праз гісторыю… кароў, што з'яўляліся, знікалі і заставаліся ў гаспадарцы. Ілюзія нязмушанай гутаркі, уплеценыя ў канву гаспадарчага клопату філасофскія высновы ствараюць уражанне адсутнасці аўтара. Аднак яго голас не знікае цалкам — у настойлівым вяртанні да тэмы дома як роднага кутка і Дома — як прыстанку душы. Мікола Гіль піша пра дом, у які заўсёды, у любым узросце хочацца вярнуцца, пра родны кут, куды цягне нязменна. На жаль, такога ўжо не скажуць сучасныя маладыя беларусы, у гэтым сэнсе прадстаўнікі пакалення нашых бацькоў сапраўды *апошнія*. Вёска змяніла сваё аблічча кардынальна, людзі з'язджаюць, каб не вяртацца і не згадваць. Ды і М. Гіль скрушна заўважае: «Нічога таго, ранейшага, сапраўды — амаль ні знаку. Ні людзей, ні дрэў, ні дарог, ні сцежак».

**На суд чытача** аддае нізку вершаў з рытарычнай назвай «Калі неразведзенай віп'ю радасці?» Алесь Спіцын. Трапныя вершаваныя радкі-назіранні перамяжоўваюцца з выпадковымі запісамі пабачанага і пачутага за дзень. Разняволенасць формы і поўная свабода метафар у сучаснай паэзіі прыводзяць да адметных паэтычных адкрыццяў толькі тады, калі аўтар здольны аб'яднаць іх агульным нетрывіяльным сэнсам. Простае фіксаванне пабытавых карцінак ужо даўно не ўспрымаецца арыгінальна.

***




**Выдатна.** Апавяданне Лізы Бірг «Лялечніца» чытаецца лёгка, нягледзячы на «цяжкасць» тэмы: знішчэнне яўрэйскага гета падчас Вялікай Айчыннай вайны. Праўда, чытач не здагадваецца, што няспешная апавядальная плынь прывядзе ўрэшце сюжэт да такога фіналу. У творы дзве лініі, дзве гераіні: дзяўчынка, якая атрымала ў падарунак ляльку ад мясцовай руказдольніцы, і сама лялечніца. Па сутнасці, твор прысвечаны аднаму дзіцячаму ўспаміну пра «кароткае, але такое шчаслівае даваеннае жыццё». Лялька ўспрымаецца як сімвал зняевечанага дзяцінства, яе стваральніца — як сімвал неўміручасці духоўнага пачатку. І хаця аўтарка, распавядаючы, як майстрыха паспела выкінуць за дзверы газавай камеры сваю апошнюю ляльку, называе яе «апошняй на зямлі лялечніцай», думаецца, у гэтым — не ўвасабленне страты веры ў чалавека, але найбольш глыбокае выражэнне роспачы дзіцяці, якое сутыкнулася з бядой, перажыць і асэнсаваць якую было не ў стане: «Ніколі больш у маім жыцці я не мела лялек, не ведала лялечніц, не бачыла мятлушак, што спускаліся з аблокаў; гэта ўсё засталося атрыбутамі дзяцінства, якое пакінула мяне назаўсёды».

**На суд чытача.** Апавяданне «Марсель» стварае падманлівае ўражанне, што Кацярына Карповіч — не аўтар, а перакладчык. Дзея разгортваецца ў пансіянаце для нямоглых старых «Ціхі бераг» за 120 кіламетраў ад Парыжа, галоўныя героі — Жульен і Анэт, дыялогі раз-пораз перасыпаюцца французскімі выслоўямі, назвамі французскіх страў і гатункаў кавы... З аднаго боку, вядома, душа і вока адпачывае: прыгожая рамантычная казка, ні табе праблем нашай сучаснасці, ні табе трагізму быцця. Але з другога — чытаеш і прыгадваеш сюжэты французскіх фільмаў, з'яўляецца адчуванне пэўнай другаснасці сюжэта.

**Сумніўна**. Нізка вершаў Лізаветы Палеес «Быць жанчынай» у каторы раз прымушае прызнаць, што немагчыма падабраць ніякай новай рыфмы да слова «любовь» (на рускай мове). Але і па-ранейшаму прысуседжваць «кровь» і «вновь» — таксама не выйсце.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Жана КАПУСТА**

# Застацца сабой…

**Кніга Анатоля Крэйдзіча, выдадзеная выдавецтвам «Чатыры чвэрці» ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», заінтрыгоўвае ўжо сваёй назвай — «Хуліган». Так называецца і адно з апавяданняў. Інтрыгуе і назва аповесці, якая адкрывае кнігу, — «Косцік і Маргарыта».**

Па меры знаёмства з творам высвятляецца, што пісаць пад Міхаіла Булгакава А. Крэйдзіч не збіраўся. Нічога містычнага, фантастычнага ў аповесці і ў паміне няма. Як і не ставіў ён за мэту ў апавяданні «Хуліган» паднесці чытачу нешта такое, што таксама вымагае экстравагантных сітуацый, толькі ўжо ў сучасных рэальных абставінах.

Можа ўзнікнуць пытанне: навошта тады ўсё гэта інтрыгоўнае? Адназначна, канешне, адказаць немагчыма. Дый калі лепш разабрацца, такой неабходнасці няма. Не трэба «прэпарыраваць» ні першы твор з названых, ні другі, а лепш проста ўважліва прачытаць. Пісьменнік загадзя прыцягвае ўвагу чытача, і гэта толькі на карысць. Хоць аповесць і апавяданне прадстаўленыя ў розных раздзелах — адпаведна «Аповесці» і «Апавяданні», — унутрана яны блізкія. Найперш дзякуючы галоўным героям. У першым выпадку гэта Косцік і Маргарыта, — у другім — Жэнік і Валянціна.

Як высвятляецца, дзве гэтыя пары шмат у чым падобныя. Асабліва кідаецца ў вочы нейкая інфантыльнасць мужчынскай паловы. Праўда, нельга сказаць, каб Косцік і Жэнік цалкам былі адарваны ад рэальнасці, толькі «лёталі» ў нябёсах. Ды факт застаецца фактам. Шмат у чым яны не такія, як усе. Тым, хто поруч, з імі не заўсёды ўтульна. Найбольш гэтае процістаянне — не адкрытае, а ўнутранае — выяўляецца ва ўзаемаадносінах Маргарыты і Косціка. Але цікава тое, што Маргарыта, якая, здавалася, толькі і жыве тым, каб лацвей уладкавацца (не так даўно такіх людзей катэгарычна называлі мяшчанамі), не такі ўжо прыстасаванец. Жадаючы пабольш урваць ад жыцця, Маргарыта, тым не менш, куды рэальней ставіцца да яго, чым той жа Косцік. У падобных памкненнях яна, зразумела, не адзінокая. У пэўнай ступені «сястрой» яе ўспрымаецца Валянціна з апавядання «Хуліган». Дзяўчына як быццам не надта пераборлівая ў каханні, але менавіта яна спяшаецца суцешыць Жэніка, у якога непрыемнасць праз тое, што заступіўся за сваю маці перад старшынёй калгаса.




Аповесць «Косцік і Маргарыта» невыпадкова мае падзагаловак «Гісторыя адной меланхоліі». У галоўнага героя сапраўды часта прыгнечаны настрой, ён занізка ацэньвае сябе і ўласныя ўчынкі. Аднак кідаецца ў вочы і іншае. Маргарыта і Косцік — зусім розныя. Яны, па сутнасці, на розных жыццёвых палюсах. Паступова да такога разумення прыходзіць і сам Косцік: «Для яе не існуе майго шчасця. Для мяне не існуе яе шчасця. У нас адрознае разуменне жыцця». Але ж і Жэнік не нашмат адрозніваецца ад Косціка. Ёсць над чым паразважаць… Не толькі ўнікаючы ў змест твораў, але й адштурхоўваючыся ад яго, задумваючыся над падзеямі. Паспрабаваць разабрацца, чаму сумленныя людзі становяцца непрыкаянымі, дзе вытокі гэтай непрыкаянасці і душэўнай адзіноты.

Цікавая дакументальная аповесць «Атлантыда Янкі Рамановіча». Гэтая «Атлантыда...» — творы, напісаныя прафесійным мастаком, які жыве ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна. А. Крэйдзіч з захапленнем піша пра яго, знаходзячы і такія шчырыя, усхваляваныя радкі: «Я ў сталіцы… Сталіцы беларускага жывапісу… Яна тут, у майстэрні Янкі Рамановіча ў вёсцы Моталь па вуліцы 17 верасня. На сцяне хаты — шыльда, даўняя-прадаўняя, драўляная, на якой накрэслена па-польску: ul. Wieleszkut, 21. Так і не памянялі яе былыя гаспадары. І Янка не мяняе. А сама хата збудавана ажно ў 1880 годзе. Яе сцены мудрыя, як свет». Мне таксама давялося пабываць у гэтай хацемайстэрні. Як і А. Крэйдзіч, захапляўся, што Я. Рамановіч уже напісаў і што яшчэ напіша. Падумалася, што адметны ён не толькі сваёй творчасцю. Яшчэ і тым, што не проста з замілаваннем, як некаторыя, гаворыць пра вясковае жыццё, а сам жыве ў вёсцы. Сапраўдны народны інтэлігент.

Усяго ў кнізе 12 апавяданняў, ёсць публіцыстычныя нататкі, мініяцюры. Усё гэта — тая добротная, па-сапраўднаму жыццёвая проза, якой, на жаль, сёння бракуе нашай літаратуры. Многія пісьменнікі замест таго, каб стварыць вартае, кідаюцца ў фармальныя мастакоўскія пошукі, а іншыя (будзем глядзець праўдзе ў вочы) увогуле не ідуць далей за звычайныя вучнёўскія практыкаванні. Хоць, у рэшце рэшт, што ні робіцца, дык да лепшага. Ва ўсякім разе, на фоне шэрасці набыткі выглядаюць яшчэ больш відавочнымі і значнымі.

Гэта, аднак, не азначае, што трэба пагаджацца з усім, што піша А. Крэйдзіч. У кожнага свае думкі, у кожнага ўласныя меркаванні. Але ў сувязі з гэтым не лішне прачытаць адну яго мініяцюру. Называецца яна «Праўда і няпраўда», змест жа яе наступны: «Біяграфія: так было, але гэта няпраўда. Мастацкі твор: так не было, але гэта праўда».

З гумарам сказана. І пэўная іронія. Выходзячы з гэтага, напрошваецца высновa: мастацкая літаратура — ніякі не злепак жыцця, не фатаграфічнае яго адлюстраванне. Яна сведчанне таго, як гэтае жыццё пісьменнік сабе ўяўляе, што найбольш істотнае бачыць у ім, а чаго не прымае. Таму новая кніга А. Крэйдзічу ўдалася. Ён нікога не паўтарыў, застаўся самім сабою. Тым і цікавы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# РАЎНАПРАЎЕ МЕСТА І ГОРАДА

**Падаецца, што нарэшце з'явілася літаратура для той катэгорыі чытачоў, якія даўно чакалі чагосьці адметнага на беларускім літаратурным рынку. «Урб@н.М: Адзін дзень не майго жыцця» — так называецца новы раман маладой беларускай пісьменніцы Людмілы Шчэрбы, выдадзены ў выдавецтве А. Янушкевіча. Раман-правакацыя, які нікога не пакіне абыякавым. Ці, як яго абвясціла сама аўтарка, — нанараман-правакARTцыя.**

Калі ў кансерватыўнай аўдыторыі твор выклікае абурэнне разняволенасцю нораваў, то чытачоў з сучаснымі поглядамі зачэпіць набліжанасцю да праўды жыцця. Тое ж і з мовай дыялогаў: адны не назавуць яе высокамастацкай, іншыя скажуць, што яна жыццёвая. Л. Шчэрба імкнецца трымаць раўнавагу паміж дазволеным і тым, куды каноны высокай літаратуры апускацца не дазваляюць, хаця нярэдка і небяспечна балансуе на самай мяжы.

Раман з любоўнай лініяй у аснове сюжэта, хаця яго і нельга назваць жаночым. Як заўважае сам аўтар, няма гендарных адрозненняў у літаратуры, бо піша душа, а яна не мае полу і ўзросту. Хаця ўзроставы цэнз 16+ на яго ставіць варта: некаторыя сцэны і дыялогі да гэтага прымушаюць. Для каго ж раман? Для моладзі, якая жыве ў сучасным свеце мабільных тэхналогій, разбіраецца ў модзе, трэндах, для людзей, якія маюць свой стыль і ўласнае меркаванне. Вылучаецца раман Л. Шчэрбы на фоне сучаснай літаратурнай плыні найперш адметным стылем. Пісьменніца паспрабавала зруйнаваць у літаратуры ўсе шаблоны і напісала твор у жанры мэшап (ад англ. *mash-up* — «змешваць кампазіцыі»). Гэтая ідэя прыйшла са свету камп'ютарных тэхналогій і музычных рэміксаў, дзе выкарыстоўваюць элементы з некалькіх розных крыніц і аб'ядноўваюць іх у новы арыгінальны твор. Хаця такое азначэнне добра ўспрымаецца і па-беларуску: «мешаніна», сумесь розных жанраў. Гэтакі філасофска-рамантычны постмадэрнізм з уключэннем мастацкіх элементаў іншых стыляў.




На што адразу звяртаеш увагу? Твор напісаны не коратка, але лаканічна. Апісанне герояў трапнае і сціплае, як у сінопсісе ці ў п'есе. Асобная знаходка — дыялогі, пададзеныя ў выглядзе паведамленняў у сацсетках ці на інтэрнэт-форумах. Прыём, можа, і не новы (успомнім класічныя творы, дзе для раскрыцця пачуццяў і адносін паміж героямі ў тэксце прыводзілася ліставанне), але форма падачы дакладна будзе даспадобы сучаснай моладзі, якая багата часу бавіць менавіта ў сацыяльных сетках.

Раздзелы ў рамане кароткія, што таксама адлюстроўвае прыярытэты сучаснага чалавека, які чытае збольшага толькі кароткія паведамленні ў стужках навінаў. Гэта вымагае і пэўнай «мастацкай канцэнтрацыі»: кожны абзац і сказ прадуманыя, напісаныя гучна, напоўненыя метафарычнай глыбінёй: «Куды бегчы, калі застрэліла свой дом? Ва ўпор. Грукатам дзвярэй». Галоўная гераіня як хакер урываецца ў жыццё свайго абранніка і «ўзламвае» яму мозг.

Кніга ўмоўна падзелена на дзве часткі, гэта «раман у рамане»: адзін напісаны аўтарам, другі — героем. Падзеі разгортваюцца ў 2012 — 2014 і, адпаведна, у 1642 — 1654 гадах у Мінску, аўтар паказвае і прыгажосць старога горада з яго вузкімі вулачкамі, і горад сучасны, у якім увесь цяжар гарадскога ціску кожным міліметрам ртутнага слупка абрынаецца на чалавека. «Горад = М. Былое Места стала горадам, Урбанам і, як ні збягала ад першаснай М, — Мегаполісам». Увогуле, пачатак кнігі нагадвае псіхадэлічнае кіно, дзе адна яркая карцінка змяняецца іншай і глядач «пераскоквае» ў розныя часавыя пласты. Аўтар «закідвае» сваіх герояў у іншых іпастасях на чатыры стагоддзі назад, у 1648 год — у Баркалабава, Смаленск, Магілёў… Ваенны паход цара Аляксея Міхайлавіча на беларускія землі ў 1654 і абарона ўсходніх земляў Вялікага Княства Літоўскага ад маскоўскіх войскаў, бітва пад Лоевам, абарона Магілёва, Радзівілы і Сапегі. Адпаведна, раман можа быць цікавы і аматарам гістарычнай прозы.

Уражваюць апісаныя ў творы гісторыі дзяцей, якія праходзяць курс хіміятэрапіі. Яны, як маленькія філосафы, шукаюць простыя радасці ў сваёй няпростай штодзённасці. Кранальным падаецца і разважанне галоўнай гераіні пра немагчымасць нарадзіць дзіця, што гучыць для яе як прысуд. І хаця сучасная медыцына вырашае такія праблемы, але «чалавек — не вядро з запчасткамі, для яго адных тэхналогій, відаць, недастаткова».

Знайшлося тут месца і дэтэктыўнай лініі: героі выяўляюць, што ў іх сем'ях захоўваюцца старонкі Баркалабаўскага летапісу, а неўзабаве гэты скарб выкрадаюць. Аматарам філасофскай прозы прыйдзецца даспадобы біблейская прытчавая частка, а філолагаў зацікавяць развагі галоўнай гераіні пра «раўнапраўе ў моўных канструкцыях».

**Алег ГРУШЭЦКІ**



Вікторыя СМОЛКА

**Конкурс «Першацвет»**

***

*Каб вочкам кветкі ўздоўж зямлі
Упасці мне на крок маленства:
Пабачыць светла, як ішлі
Дзяўчынка з Марай сцежкай сэрца.*

*Хачу ўсёчулай цішынёй
Запоўніць келіх дня гранёны,
Каб ліў свой спеў у сэрцазвон
Зноў голас, небам блаславёны.*

*Далоні Мары на плячы
Адчуць хачу і адчуваю,
Калі ў пялюшках аблачын
Бог вершанятка спавівае…*

***

*Шчырыеш пра маму па радыё.
Цягнік паляцеў — не пайшоў.
А дыханне водарыць радасцю
Сустрэчы са светлай душой.*

*Ах, колькі асенняе велічы
Хаваюць чароўныя дні!
Дзіцячыя рукі ціхенечка
Да сэрца свайго прыгарні.*

*І слёзы сальюцца яскравыя
Ў мядзяную клёна далонь...
І на знічаняткавым тварыку
Ласкава запаліш святло...*

***

*Апошні раз бярозку абдымаю
І перад ёй раскрырываю душу,
Лісток зялёны за руку трымаю,
Не адлятаць да Выраю прашу.*

*Апошні раз пяю, і голас грэе
Праменьчыкі, што гояць
новы дзень.
Апошні раз па тых скрыжалях рэек
За сінім цягніком душа ідзе...*

***

*На бераг высахлай рэчкі забытай,
Як на магілку, нашу васількі.
Ні для каго не шкадую малітвы,
Ні цёплых песень, ні цёплай рукі.*

*Калі прачуліла, трэба камусьці,
Каб падышла на хвілінку, на дзве.
Я прыгарнуць тое сэрца імкнуся
У вечар зімовы нязорных завей.*

*Я не прыходжу — лячу на спатканне,
Бы крылы нехта са спінай злучыў.
І ў несустрэчнасці не папракаю.
Не папракаю нікога не ў чым.*

*Ізноў прынsocу, святыя, як ранак,
Я васількі на зямлю без крыжа.
Мне невядома, хто там пахаваны —
Але святлей, калі краскі ляжаць...*

***

*Зоркая Мара, падглядзь мае сны,
Зор дзьмухаўцом акрапі ты мне голаў.
Чуеш, як дыхае звон цішыні,
Ходзяць анёлкі наўкола...*

*Сееш разынку слязы расяной —
Зернейка сумнае ў шчочкавай ямцы.
Зоркая Мара, паплач нада мной —
Спеўнай спагадаю маці.*

*Дай мне наранку, як сны адцвітуць,
Быць не адной, ідучы адзінока.
Дай мне апеку анёльскую тут,
Сэрца празорнае вока...*

***

*Калі коўдраю стане насып
Над апошняй калыскай — з пяску,
Мама з Марай пасеюць краскі
У Вырайным маім садку.*

*І сінечу пялёсткаў дзіўных
Прыме з цёплай рукі зямля,
Вочкі краскі праменьчык кінуць
На бяззрокавы мой пагляд...*



Глеб ГАНЧАРОЎ

***

*Я прадчуваў, што ў холадзе
прыйду,
Згублю мацунак долі валацужнай,
І страт невярогодных чараду
Сустрэча сцішыць. У зімовай
сюжы
Ёсць нешта першабытнае… Амаль
Пасуе мой характар снегападу,
Як ломаный маланкі вертыкаль
Перасякае рысу далягляду.*

*Я пэўны быў, што ў снежаньскай
тузе
Прывалаку разбухлыя кішэні,
З якіх павыпадаюць па чарзе
Набытыя ў ліхтугах
спусташэнні.
Муляючыся, месяц цішаком
Распусціць шыбу колерам
лімонным,
І я сябе адчую двайніком
Заціснутага ў кут хамелеона.*

*Няхай мігцяць лімонныя агні
Ператварэннем поўневага злепка:
Я буду адлюстроўваць прамяні,
Падобны да самотнага аскепка.
Рассечаная лёзамі начэй
На тысячы непераносных енкаў,
Ты, каб закатаваць мяне лягчэй,
Раптоўна скінеш тонкую
сукенку.*

**Прысвячэнне
з сярэдневяковага беларускага
«Рамана пра чатырох сыноў
Альгімонта»
Гугона Наваградскага**

*(са старафранцузскай)*

*Гібею я ў далёкіх краявідах,
Элітрамі закрыўшыся ад бед.
Таемны лёс, хай мой апошні
выдых
Абдыме пры канцы радзімы свет.
Літва! Я мару аб тваіх прывідах
І вымыслах, што гоняцца мне
ўслед
Там, дзе яліны ў футравых
хламідах
Агортваюць разгаллем агняцвет.*

*Разбэшчаны мой розум, уяўленне
Абцасамі прышпор, каб наўгалоп
Трывалы верш з'явіў увасабленне,
Уцёкшы ад натужаных хвароб!
Разгорнуты сувой майго малення,
Набат трывожна б'е ва ўпарты
лоб!
Айчына! Толькі гэта прысвячэнне
Я здольны даць табе замест аздоб.*

*Мо патануўшы ў бездані рамана
І ўцяміўшы напышлівы сюжэт,
Спасцігнуты ў краіне
Шарлемана,
Ты зразумееш, што сказаў паэт.
Фальваркі шляхты, водбліск
буздыхана
І прашчураў свабодных запавет,
Кілімавая пухкая паляна,
Азёр неверагодных бранзалет,*

*Цывільны верш ды трохі
рамяства —
Я іх табе прыношу ў дар, Літва!*



Ларыса ВЫРКО

## Там, дзе зоры глядзяцца ў Гарынь

*Там, дзе зоры глядзяцца ў Гарынь,
П'юць бярозавы сок напрадвесні,
Там спяваюць суладныя песні,
На Купалле палаюць кастры.
Гэты край назаўжды малады.
Не пакінуць яго, не забыцца.
Успамін ручаінкай бруіцца
І вядзе да крынічнай вады.
Як люстэркі, крыніцы. На ўзлессі
Куст каліны ў белым вянку.
Льецца песня, гучыць з паднябесся —
Жаўрукі зноў вітаюць вясну.
Там, дзе зоры глядзяцца ў Гарынь,
Туманы мурагі засцілаюць,
А гады, як аблокі, сплываюць,
І заранка світаннем гарыць.*

## «Колькі той бяды!»

*Па жыцці іду: смяюся, плачу.
Ляцяць, як птушкі, лепшыя гады.
У цяжкі час шукаю я удачу
У словах мамы: «Колькі той бяды!»
Прыязджаю я дадому рэдка,
Каб з табою, родная, на час
Адагрэць душу сваю і сэрца,
Пра свае турботы расказаць.
Ведаю, што сэрцам, не інакай,
Бачыш, дзе знайсці любы адказ
У маёй такой цяжкой задачы,
Што не вырашаецца падчас.
Скажаш мудрае, ад сэрца, слова,
Ластаўкай мяне ты назавеш,
Будзем зноў, як некалі, з табою
Перачытваць мой найлепшы верш.
Да мяне імчыць мая дачушка,
Ведаю, што ёй сказаць, заўжды:
«Я з табою, не журыся, шчабятушка,
Ўсё міне, бо колькі той бяды!»*



Фота Кастуся Дробава.



Васіль КУЗЬМІЧ

## Ластаўка

*Яшчэ не паспее ў маім акне
Заружовіцца раніца ласкава,
Як імкліва ў паветры мільгне
Бадзёрая, юркая ластаўка.*

*Здаецца, яна крылом тугім
Шэрае неба разрэзвае.
Гучыць, як радасці гімн,
Яе шчабятанне гарэзнае.*

*І дзіўна: абшар навакол
Прыціхне і моўчкі слухае,
Нібы гэта хор спевакоў,
Усё, што пяецца вяшчухаю.*

*Ужо і ўсход спакваля заірдзеў
На небасхіле з лёгкай хмурынаю.
Ластаўка жніўеньскі дзень
Спевам сваім адкрыла нам.*

*Пяшчотным і тонкім святлом
Разліваецца летняя раніца.
Ластаўкі вострым крылом
Яна не баіцца параніцца.*

## Ля Убарці

**Памяці пісьменніка
Міколы Капыловіча**

*Лось у падлеску, што побач, не трубіць,
Чайка на беразе нешта маўчыць.
У летнюю спёку плыткая Убарць
Спакойна разводдзе вясновае сніць.
Поплаў на травы нас заклікае,
Сонца прамені нам падае, —
Дружа, кампанія ў нас такая —
Кожны ўдзячна абняў бы яе.
Без чаркі не зладзіць шчырай гамонкі,
У ёй сябрам ніхто не ілжэ.
Нешта нам шэпча падлесак гонкі,
Схіляецца поўдзень усё бліжэй.
Гаворка ў нас аб самым сур'ёзным
Без нейкай там зайдрасці
і пахвальбы:
Калі не цягнеш да класікаў прозы,
То мусіш хоць хатнім паэтам быць;
Калі ж твая думка зусім збяднела,
А яе падмяняе слоўны туман,
Тады прызнайся без крыўды і смела,
Што ты закончаны графаман.
Цячэ праз памяць у вечнасць Убарць.
Поплаў зноў у зялёнай траве.
Хай лось для нас у падмурку
затрубіць,
Хай чайка з берага нас пазаве.*

# ЧАРАДЗЕЙНАЯ ПІЛЮЛЯ



Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

*АПАВЯДАННЕ*

Прабабуля была хворая. У грудзях ныла, балелі ногі, гудзела галава. Тут бы і доктару патэлефанаваць ды ў бальніцы падлячыцца, толькі баялася старая Фрося за праўнучку сваю Машаньку. Забяруць малую ў прытулак, а потым у дзіцячы дом. Адарвуць крывінку ад роднага дома. Не, у бабы Фросі сілы хопіць... У вайну ад аскепачнага ранення ледзь Богу душу не аддала, але не здалася, потым браты-сёстры з голаду памерлі, а яна выжыла, у перабудову прыйшлося дачцэ-бязмужцы дапамагаць, на трох працах спіну гнуць, але нічога, і гэта перажыла. Цяпер дык зусім крышачку засталося — праўнучку Машаньку да розуму давесці. А там, глядзіш, і ўнучка вернецца. «Справы маладыя» заўсёды хутка і незаўважна праходзяць — нагуляецца Вольга ды і зразумее, што дома лепш.

— Ай… — стогне бабуля, — Машанька, дачушка, вадзіцы падай. Машутка маўкліва прыстаўляе да рукамыйніка крэселка і дастае з верхняй паліцы адзіны чысты кубачак. Дацягнуць бы да вечара, дачакацца б суседскую дзяўчыну, што ў краме працуе. Яна, душа добрая, дапаможа, прыбярэ хату, ды Машаньку памые і спаць пакладзе.

— Мне б пілюлю такую, каб раз — і здаровай быць! — уздыхае Фрося.

Чула Машанька пра чарадзейную пунсовенькую кветачку, палачку-ратавалачку ды боты-скараходы, а вось пра чарадзейную пілюлю... Бабуля задрамала. Машанька накінула на плечы вязаную кофтачку і рушыла ў аптэку.

— Лякарства дзецям не прадаём! — буркнула пажылая жанчына і пайшла ў бакоўку. Але Маша ўпарта працягвала чакаць.

Ціха раніцай у аптэцы. Промні вясновага сонца прабіваюцца скрозь акно і сцелюцца па чыстай падлозе... Вось і Маша стала на сонечную дарожку, прайшлася па ёй некалькі разоў і дачакалася. Нечакана ўзабаве ў акенцы з'явілася маладзенькая дзяўчына ў белым халаце.

— Мне вельмі-вельмі патрэбна чароўная таблетка...

— Круглая ці квадратная? — усміхнулася дзяўчына.

Маша пацiснула плячыма.

— Горкая ці салодкая?

— Салодкая! — упэўнена сказала Машанька.

— Так ужо і быць! Трымай! Але глядзі, адразу ўсё не ясі. Па адной у дзень.

Калі Машанька вярнулася, бабуля сядзела на ложку і малілася. Пакутліва сказіліся яе рысы на твары, тонкія маршчыністыя павекі дрыжалі. Машцы ўпершыню стала страшна. Баба Фрося — шумная, вясёлая, усё гарэла ў яе руках і вось на табе. Бездапаможна згорбілася, сціснулася ад страху за яе і нічога зрабіць не можа...

— Я ж табе казала — сама не выходзь з дому! — стагнала Фрося.

— А мне цётка чароўную таблетку дала, — тоненькім галаскам сказала Маша.

Фрося зажмурыла заплаканыя вочы і слаба пакруціла галавой:

— Не дапамогуць, унучачка, мне ніякія пілюлі. Старасць не лечыцца... Машанька прыціснулася да бабулі, абхапіла яе плечы тонкімі ручкамі:

— Зараз я прынясу вады... А праз тыдзень ты адвядзеш мяне на экзамен у музычную школу. Бо абяцала...

— Маша... Музычная школа... Так, так, — бабуля сумна змоўкла.

— Усё будзе добра-а-а-а! Усё будзе добра-а-а-а! Усё будзе добра-а-а-а! — вышэй і вышэй брала Маша ноткі ў сваёй распеўцы. Гэта яна па тэлевізары бачыла, як дзеці вучацца спяваць.

Праглынула Фрося Машчыну таблетку, вадой запіла, перахрысцілася і заснула.

Раніцай бабульцы стала лепш — хадзіць пачала ад ложка да кухні.

— Маш, а як хоць таблеткі называюцца? Я ж сляпая — нічога не бачу! — на пяты дзень спытала бабуля.

— Не ведаю! Пачак разарваўся... Толькі апошнія літары відненоцца — «з» і «а».

— А жанчына, што таблеткі табе дала, якая была?

— Прыгожая вельмі, — задумалася Маша. — Добрая і ўся ў белым, як анёл!

— Прасвятая Багародзіца! — перахрысцілася Фрося і зноў заплакала.

І Маша перахрысцілася. Толькі плакаць ёй не хацелася. Тут радасць такая: бабуля ўстала!

У дзень экзаменаў Фрося Машутцы банцік ружовы прычапіла, узяла кіёк і павяла малую ў музычную школу...

...Памерла Фрося праз два гады, у траўні. Да васьмідзесяці пяці некалькі дзён не дажыла. Адышла бабуля на руках у любімай унучкі Вольгі, і апошнімі яе словамі былі: «Усё зрабіць я паспела. Дзякуй, Божачка».

— Дачку ніколі не кіну, дзякуй табе, бабуля!! — расплакалася Вольга, прыціснуўшы да сябе мацней Машку.

Пасля Фросінай смерці Маша часта грала на скрыпцы ля расчыненага акна. І дваровыя дзеці пляскалі ёй у далоні. А потым — гульні. Маша тады адразу на вуліцу бегла.

Аднойчы пад вокнамі Вольга заўважыла суседскага Міколку з незнаёмым маленькім хлопчыкам. Міколка, задраўшы галаву, прыскокваў пад Машыну музыку, а хлопчык смяяўся і спрабаваў паўтарыць яго рухі.

— Што, хлопцы, весела? — у акенцы з усмешкай спытала Вольга.

Міколка тузануў малога плячом, схамянуўся і глуха выціснуў:

— Мне — так, а вось Саўку — усё адно...

— Дык ужо і ўсё адно? — Машка апусціла скрыпку.

— Глухі ён, нават у школу не возьмуць, — сумна панурыў галаву Міколка.

У Машкі засталіся яшчэ чатыры чароўныя таблеткі ў парваным пачку... Яна не раз думала, што калі б бабуля не пакінула іх на чорны дзень, дык да гэтага часу была б жывая...

Машка крыкнула Міколку ў акно:

— Я зараз, толькі нікуды не хадзіце!

Машка блытана растлумачыла сябру пра чароўныя таблеткі. Але той толькі моўчкі таптаўся на месцы.

— Бяры, Саўка, і ясі! Не бойся, таблетка салодкая, як цукерка! І вушкі твае будуць здаровымі...

Саўка хутка адправіў за шчаку Машкаў пачастунак, а Міколка толькі набычыўся і незадаволена хмыкнуў.

— А вось гэтыя тры таблеткі схавай у кішэню. Кожны дзень па адной трэба піць. Не верыш? — прыжмурыла зялёныя вочы Маша.

— Веру, дзякуй, — буркнуў Міколка і пацягнуў Машку за чуб, трэба меркаваць, у якасці падзякі: — Пойдзем у мяч гуляць! Саўку ўсё роўна хутка бабуля дадому забярэ. Яму на цягнік збірацца трэба. Увечары ён з цёткай дадому ад'язджае.

Гэта было напрыканцы лета. Машка сабралася гуляць, ды затрымалася ў дзвярах: ніяк ключы ад хаты не магла знайсці. У гэты час яна і пачула размову мамы з Міколкавай бабуляй.

— Так, час хутка ідзе... Міколка вунь у чацвёрты клас ужо пойдзе, а Саўку нашага вылечылі!

— Трэба ж... Цуды на свеце бываюць! — пляснула далонямі Вольга.

— Гэта ўсё мае чарадзейныя таблеткі! — запішчала каля парога Машка і ажно кулачкі ад захаплення да шчок прыціснула. — Бачыце, дапамаглі. І бабе Фросі таксама дапамагалі...

Вольга зрабіла сур'ёзны твар:

— Колькі разоў я табе казала! Не лезь у размову дарослых... А ключы можаш не шукаць — я дома буду.

Машка пакрыўджана грукнула дзвярыма.

— Аперацыю малому зрабілі ў Германіі, — як толькі зачыніліся за Машай дзверы, патлумачыла старая. — А на дачку не крыўдзіся... Яна ў цябе сардэчная дзяўчынка. Ужо за гэта ёй дзякуй. Дарэчы, чароўныя таблеткі звычайнай глюкозай аказаліся... Толькі тэрмін прыдатнасці выйшаў, таму мы іх выкінулі адразу. І купілі малому новыя вітамінкі. Такія ж салодкія і белыя. Яму з імі праўлуецца было весялей.

***

У аптэку ўбегла чарада дзяцей.

— Глядзі, Машка, глядзі! — шапнула сяброўцы Кацька.

Маша спачатку падышла да аднаго акенца, пасля да другога, трэцяга...

— Я ж кажу, яна тут больш не працуе, — засмучана развяла рукамі дзяўчынка.

— Знайшлі дзе гуляць! Вам двара мала?! — з'явілася ў адным з акенцаў галава правізаркі. — Вітамінкі дзецям без дарослых не прадаём! Давайце, хутчэй адсюль!

Кацька пачала ўсхліпваць.

— Ды не раві ты! — тузанула яе плячом Машка. — Калі не ў гэтай аптэцы, дык у другой... Мы яе абавязкова знойдзем і вылечым тваю маму... Праўда, Колька?

Міколка маўкліва кіўнуў галавой, усміхнуўся і, засунуўшы рукі ў кішэні, засвістаў сабе пад нос нейкую мелодыю. Ён не хацеў гаварыць праўду, таму што сам у яе ўжо не верыў. Ды і апошнія тры таблеткі з той пачкі ён з бабулінай сметніцы ўсё-такі дастаў і цяпер сціскаў вільготнымі пальцамі рваную ўпакоўку ў кішэні... Трымаў каштоўнасць для Кацькі на выпадак, калі сёння яны не сустрэнуць аптэчную фею.

*АБРАЗКІ*

## Радасць на ружовых аблоках

У дзяцінстве прылятае Карлсан, прыходзіць Дзед Мароз, прыплываюць «Пунсовыя ветразі»... У дарослым жыцці ўсё гэта называецца нязбытнымі марамі, што дакучліва заселі ва ўяўленні, а казачнікамі становімся мы самі: для сябе — суровымі, для іншых — сумнеўнымі...

Насупраць бацькоўскага дома стаіць адзіная ў горадзе малапавярхоўка з хаткай на даху. Чатыры маленечкія акенцы з клятчастымі фіранкамі і выфарбаваная калісьці ў зялёны колер дахоўка... Як усе дзеці, я была ўпэўнена, што ўсе казкі напісаны толькі для мяне адной, і ўсё пачалося ў казачнікаў з пабудовы гэтай хаткі на даху. Ну, а потым адмыслова для мяне, адкуль ні вазьміся, пасяліўся там Карлсан, і цяпер па святах ён пакідае на балконе свае пасылкі. І чым часцей ён прылятаў, тым цікавейшымі былі падарункі. Я ўяўляла, як Карлсан доўга ламае галаву, што мне падарыць, а потым, пакуль усе стаяць у чарзе па дэфіцытныя тавары, уключае свой прапелер і ляціць у іншую краіну па зефір у шакаладзе, дзіцячую касметыку, незвычайныя цацкі...

Аднойчы, калі мне ўжо споўнілася сем гадоў, на заснежаным балконе побач з пасылкай я ўбачыла маленечкія сляды.

— Карлсан, вярніся! — гучна крыкнула я.

Мама праслязілася, тата ўздыхнуў.

— Карлсан паляцеў, ды абяцаў вярнуцца! — зноў па-кніжнаму сказала мама. Я павесіла нос, але цвёрда вырашыла вечарамі назіраць за хаткай на даху.

І дачакалася! Адной майскай раніцай мой радасны крык ускалыхнуў увесь дом:

— Карлсан прыляцеў! Ура! Ён усё-такі прыляцеў!

Мама на кухні нешта выпусціла, тата на канапе зашамацеў газетай і незадаволена прабурчаў:

— Зайграліся мы! Пара сталець... Ужо равеснікі з яе смяюцца.

Але чалавек з прапелерам сапраўды прыляцеў! Разумны, прыгожы, у меру ўкормлены мужчына хадзіў па даху ля вокнаў свайго доміка.

Мама з татам утаропіліся ў акно і здзіўлена пераглянуліся...

Гэта былі самыя крылатыя хвіліны ў маім жыцці, у душы бязмежным полем цвілі рамонкі, у галаве на ружовых аблоках трыумфальна лунала радасць.

— Ага! Не верылі?! А вось вам і Карлсан! — я схапіла слоік варэння і выскачыла на двор.

Эх… «Карлсанам» аказаўся тэлевізіёншчык дзядзька Пеця з заплечнікам на спіне. Ён папраўляў на даху антэну.

Дзядзька Пеця, калі спусціўся з даху, нават спіну агаліў... І там не было ніякага прапелера... І нават шрама ад былога прапелера... І варэнне ён таксама не еў... І наогул быў змрочным і стомленым ад жыцця.

## Адзінота

...Інтэрнэт і два тэлефоны — мабільны і правадны. Размовы, паведамленні, сотні сяброў ва «УКантакце», «Аднакласніках», «Фэйсбуку». Фатаграфіі ў поўны рост, профіль, анфас. У купальніку — на дзесяць гадоў маладзейшая... І зімой — у дарагім футры... Што прымярала ў нейкім модным буціку... На фоне пальмаў, у хатнім інтэр'еры і на суседскай дачы.

— Ало? Ну што ён табе напісаў? А ты яму? А ён? — тэлефануе сяброўка.

— Ало? Ну як, купіла зялёную сукенку? Не падышла! Шкада! Дарэчы, за інтэрнэт не забудзь заплаціць, — тэлефануе сястра...

— Прывітанне! Ну што, Светка тэлефанавала? А ты чаму на СМС не адказала? Што? Тэлефон упаў? Сэнсар не працуе? — Валька.

Вось такая пустэча з пустэч... Цэлы дзень... І нічога не паспяваем... І каханне гэтае праклятае ніяк не знайсці, не зачапіць.

Учора выкідвала барахло з шафы — цяжка бабахнуў на падлогу бабулін стары фотаальбом. Дзесяць фатаграфій за ўсё жыццё, а столькі падзей! Бо дзед, калі вяртаўся з вайны, выпадкова заехаў на хутар вады папіць — убачыў бабулю, закахаўся, праз пару дзён ажаніўся... Трое дзяцей, шасцёра ўнукаў. Пяць пераездаў за жыццё! Гаспадарка, куры, каровы, агарод, шыццё, вязанне, закаткі-засолкі. Эх! Былі часы! Шанцаў знайсці адно аднаго — як у латарэю выйграць! — падумала, усміхнулася. — Старыя формулы шчасця, на жаль, не працуюць.

# ТАЯ, ХТО АДКРЫЛА МНЕ БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

У маёй бабулі, Валянціны Міканораўны Шчадрыной, юбілей. 28 мая ёй споўнілася б 90 гадоў.

Яна працавала ў сакратарыяце Праўлення СП СССР кансультантам па беларускай літаратуры. Была таленавітай перакладчыцай і прапагандысткай твораў нашых пісьменнікаў. У яе перакладзе выйшлі кнігі Анатоля Кудраўца, Івана Чыгрынава, Івана Пташнікава, Яна Скрыгана, Міколы Гіля, Рыгора Семашкевіча. Пасля выхаду ў Маскве «Каласоў пад сярпом тваім» стала пастаянным перакладчыкам Уладзіміра Караткевіча, які лічыў маю бабулю адным са сваіх лепшых сяброў.

**1.**

Калі я, падлетак, меў непаразуменні з бацькамі, крыўдзіўся на іх і скардзіўся бабулі, яна ўсміхалася і казала:

— Дык гэта ж добра!

— Добра?! Чаму?

— Ну вось, яны табой незадаволеныя, кажуць табе нейкую непрыемную і, як табе здаецца, непатрэбную праўду, і табе хочацца…

— Што мне хочацца?

— Ну, можа, пасля таго, як ты адплачаш сваю крыўду, даказаць ім адваротнае? Злосць, калі мы яе правільна накіроўваем, робіць нас моцнымі. Дакажы, што ты не такі, якім лічаць цябе бацькі. Мая мама ўвесь час была мной незадаволеная. Казала, што я непрыгожая, мяне не будуць кахаць хлопцы, з мяне нічога вартага не атрымаецца. Ведаеш, як мне было крыўдна? І ў выніку…

— У выніку?

— Я сустрэла самага прыгожага ў свеце хлопца, нарадзіла дзвюх выдатных дачок, мела цудоўную працу, яркіх сяброў. Дасягнула ўсяго сама. Я не чакала ад мамы падтрымкі. Яе нявер'е ў мае сілы зрабілі мяне толькі больш моцнай. Таму, на самай справе, гэта проста выдатна, калі бацькі не падтрымліваюць сваіх дзяцей! — засмяялася яна.

Бабуля была парадаксальнай. І я любіў яе за гэта.

**2.**

Памятаю, мяне прымусілі ў школе вывучыць нейкі верш Петруся Броўкі. Мне не падабаўся гэты паэт. Куды яму, скажам, да Багдановіча ці Караткевіча!



*Валянціна Шчадрына. Мінск, ІІІ курс БДУ. 1949 г.*

Я сказаў пра гэта Валянціне Міканораўне, прачытаў ёй нават вядомыя радкі эпіграмы «Пятрусь Броўка піша лоўка…»

— Замаўчы! — гнеўна абарвала яна мяне. — Ідыёту, які напісаў падобны бруд, я б не толькі рукі не падала, але яшчэ і выліла б на галаву вось гэты суп, які ты зараз ясі!

— А што я такога сказаў?..

— Нават калі паэт напісаў хаця б адзін геніяльны радок, ён варты павагі!

Бабуля пачала чытаць мне на памяць малавядомыя вершы Петруся Броўкі. Нават не чытала, а з нейкай невымоўнай выразнасцю дэкламавала. У гэты час яна гатавала мяса, аббівала яго малатком, рэзала. Рытміка вершаў, стук малатка былі ў дзіўным музычным суладдзі. Ніхто пасля гэтага не здзіўляў мяне такім пamaстацку адметным чытаннем паэзіі.

— Гэта выдатна… — прысаромлена прамовіў я.

— А ты думаў! — пераможна сказала бабуля. — Спадзяюся, больш не будзеш так хутка выносіць прысуд беларускім паэтам.

**3.**

Аднаго разу я пачаў жаліцца, што не паспяваю спраўляцца са сваімі шматлікімі работамі. Трэба было і да прагляду некалькі партрэтаў намаляваць, і артыкул здаць, і п'есу новую прыдумаць. Словам, гамон!

— А ты нічога не рабі! — параіла бабуля, якая была ў добрым гуморы, — і, павер мне, нічога па-сапраўднаму страшнага не здарыцца. Альбо, калі няма натхнення, цягні да апошняга, і калі ўжо ўсе тэрміны выйшлі — адкуль толькі ў цябе натхненне бярэцца! Ураз усё зробіш!

— Жартуеш? — пакрыўджана спытаў я.

— Чаму? Многія так робяць. Але самы лепшы спосаб мне падказаў Максім Танк. Калісьці я яму таксама паскардзілася, што не спраўляюся.

— А якую вы слухаеце музыку, калі працуеце? — запытаў паэт.

— Якая музыка? Яна ж толькі адцягвае ўвагу! — здзівілася я.

— Гледзячы што слухаць… — усміхнуўся Максім Танк.

— Я праверыла. Паставіла «Песняроў», і, ведаеш, настрой адразу ж палепшыўся! З'явілася натхненне… І пераклад аднаго нуднага рамана я выканала нават за два тыдні да яго здачы. Слухай падчас работы тое, што табе падабаецца, і пабачыш, як усё будзе хораша!

Я праверыў. Сапраўды, музыка мне дапамагала. І зараз звычайна, калі пішу які артыкул ці п'есу, працую пад любімыя мелодыі.

**4.**

Быў час, калі я не вельмі любіў чытаць беларускую літаратуру. Выключэнне рабіў толькі для Караткевіча.

— Дурань! — казала бабуля. — Ты вось любіш амерыканскія баевікі, часам, ведаю, глядзіш эратычныя фільмы Цінта Браса, а ведаеш, хто ў нас з пісьменнікаў адзін з першых пачаў пісаць захапляльныя дынамічныя творы, у якіх хапала і вострасюжэтных эпізодаў, і эротыкі?

— Караткевіч? — запытаў я.

— Іван Шамякін! Яго творы любілі ўсе: і простыя даяркі, і выпускнікі філасофскага факультэта!

Бабуля апісала (як заўсёды маляўніча і па-тэатральнаму вобразна) адзін з эпізодаў са «Шлюбнай ночы». Паліцай падпільноўваў дзвюх аголеных партызанак, якія купаюцца ў возеры. Адна з іх ідзе проста на ворага, падыходзіць усутыч, выхопліваe ў аслупянелага яе хараством мужчыны аўтамат і расстрэльвае яго…

Мяне, падлетка, гэты пісьменнік, безумоўна, зацікавіў.

— Цяпер разумееш, — сказала мне бабуля праз паўгода, калі я перачытаў ці не ўсе яго раманы, — што Шамякін і Караткевіч вельмі падобныя. Абодва яны стварылі такую прозу, ад якой немагчыма адарвацца.

Калі мне трэба было напісаць сачыненне пра Андрэя Макаёнка і я не ведаў, што цікавага можна сказаць пра гэтага выдатнага драматурга, ізноў дапамагла бабуля.

— Ты перачытаў амаль усе раманы Шамякіна, а яго эсэ пра аўтара «Трыбунала» прапусціў? Іван Пятровіч ці не першы ў нашай савецкай літаратуры, хто напісаў успаміны пра сябра з такой вастрынёй, эмацыйнай праўдзівасцю, унутранай смеласцю і, вядома, займальнасцю, што побач з ім можна паставіць хіба толькі Міхася Стральцова з яго «Загадкай Багдановіча».

**5.**

Кожная сустрэча з маёй бабуляй была святам і адкрыццём чагосьці новага. Яна лёгка і ненавязліва адкрывала хараство беларускай літаратуры.

— Ведаеш, часам я стамляюся ад сваіх сённяшніх сяброў, прыяцеляў. Ты ж ведаеш, сяброўства, асабліва калі яно сапраўднае, — самая ненадзейная рэч у свеце. Чалавек і здрада — рэчы тоесныя. Не здрадзяць табе любімыя творы, — любіла паўтараць Валянціна Міканораўна, калі была ўжо на пенсіі. — Якуб Колас ад здрады і няўвагі ратаваўся прыродай. Я ратуюся чытаннем беларускай літаратуры.

Раней, калі я слухаў гэтыя словы, то думаў, што бабуля перабольшвае. Зараз, калі нечаканы верш Язэпа Пушчы больш супакойвае, чым каналізацыйна-нарвaная фэйсбучная стужка альбо некаторыя тэлефонныя званкі, разумееш: яна мела рацыю.

*30 мая 2017 г.*

**Васіль ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# ЛОГІКА НЕВЫМОЎНАСЦІ

Тыдзень Швецыі, які праходзіў у беларускай сталіцы 29 мая — 3 чэрвеня, быў багаты на культурныя падзеі. У кінатэатры «Піянер» дэманстраваліся лепшыя шведскія фільмы, у тым ліку дакументальная стужка Крысціны Ліндстром, прысвечаная жыццю знакамітай Астрыд Ліндгрэн. У фае кінатэатра наведвальнікаў чакала фотавыстаўка *#enjoysweden* («Атрымай асалоду ад Швецыі!»). Аматары і прафесіяналы мелі магчымасць паўдзельнічаць у фотаконкурсах «Швецыя вачыма беларусаў» і «Беларусь у Швецыі».

Пераможцы былі ўзнагароджаны 3 чэрвеня, у Дзень Швецыі, падчас вялікага свята на плошчы Свабоды. У цэнтры Мінска можна было паслухаць папулярныя шведскія песні, згуляць у настольны хакей, узяць удзел у віктарынах і латарэях, набыць на памяць прыемную рэч, сувенір ад беларускіх майстроў, кнігу аднаго з вядомых шведскіх пісьменнікаў... І наведаць літаратурныя імпрэзы! На дзіцячай пляцоўцы наведвальнікі маглі паслухаць казкі «Пэпі Доўгаяпанчоха» і «Паляванне на ліса», паглядзець лялечныя спектаклі «Дарожныя прыгоды Віты» і «Хутчэй, Мама Му!», пазнаёміцца з беларускімі перакладамі шведскіх казак. Дарослыя чытачы дзякуючы сёлетняму святу могуць адкрыць для сябе новага творцу — лаўрэата Нобелеўскай прэміі Тумаса Транстромера. Зборнік выбраных вершаў шведскага паэта ў перакладзе на беларускую мову пабачыў свет у выдавецтве Зміцра Коласа. Ініцыятар праекта — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Каралеўства Швецыя ў Рэспубліцы Беларусь Марцін Оберг.

— Паўтара года таму для мяне было сапраўднай падзеяй трапіць на службу ў краіну, прадстаўнік якой атрымлівае Нобелеўскую прэмію. Шведы могуць чытаць Святлану Алексіевіч, каб даведацца пра Беларусь. А што я магу парэкамендаваць беларусам з сучаснай шведскай літаратуры, каб беларусы маглі лепш разумець шведаў? Мой адказ — вершы Тумаса Транстромера. Каб перакласці яго творы на беларускую мову, хутка сабралася група аднадумцаў, якія выдатна працавалі разам. Гэта Алеся Башарымава, Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Андрэй Хадановіч, — распавёў спадар пасол на прэзентацыі кнігі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.




Тумас Транстромер (1931 — 2015) нарадзіўся ў Стакгольме, падлеткам пачаў пісаць вершы. Ва ўніверсітэце вывучаў псіхалогію, гісторыю рэлігіі, параўнальнае літаратуразнаўства. Дзякуючы першаму ж зборніку «Сямнаццаць вершаў» Транстромера пачалі называць вядучым паэтам свайго пакалення. У 1990 годзе пасля інсульту ён быў часткова паралізаваны і страціў здольнасць размаўляць, але працягваў пісаць вершы, захаваў пачуццё гумару і любоў да ігры на фартэпіяна. Асістэнткай паэта была жонка Моніка, якая прыехала ў Мінск на прэзентацыю зборніка «Пад вольным небам». Імпрэзу таксама наведаў літаратуразнаўца, літаратурны крытык Ніклас Шолер, які расказаў пра адметнасць паэтыкі Тумаса Транстромера:

— Вершы Транстромера — гэта даследаванне складанай чалавечай ідэнтычнасці, будаванне мастоў паміж прыродай, гісторыяй і светам мёртвых. Чытачоў прываблівае выяўленчая выразнасць і адначасова ціхая празаічнасць яго твораў. Вершы Транстромера — канкрэтная паэзія, творца пазбягае абстрактных падагульненняў, але мае выключную вастрыню зроку, якая набліжаецца да звышнатуральнага. Ён вельмі ўважлівы і назіральны, паэт-вока…

Тумас Транстромер атрымаў Нобелеўскую прэмію ў 2011 годзе «за тое, што яго сціслыя, паўпразрыстыя вобразы даюць нам абноўлены погляд на рэальнасць». Ён лічыцца майстрам метафары, але, на думку Ніккласа Шолера, «метафара працуе найбольш эфектыўна, калі спалучана з простымі радкамі. Шмат вершаў Транстромера пачынаецца са знаёмых карцін: паездка на аўтамабілі, шпацыр у лесе. Мы сустракаем мясціны, дзе пражываем рэальнае жыццё, але метафары дазваляюцьператварыць матэрыяльнае ў невымоўнае, дзякуючы метафарам нелагічнае выяўляецца як натуральнае, а казачнае — як рэальнае».

Па словах Монікі Транстромер, паэт узрадаваўся б выданню зборніка сваіх вершаў у перакладзе на беларускую мову: носьбіты такіх «маленькіх» моў, як шведская і беларуская, павінны падтрымліваць адно аднаго.

Атмасфера паразумення і добразычлівасці панавала на ўсіх імпрэзах Тыдня Швецыі ў Мінску. А пераклады лепшых шведскіх пісьменнікаў на беларускую мову дазволяць працягнуць знаёмства з гэтай прыгожай паўночнай краінай.

**Юлія ШПАКОВА**

# ЯК ЗАВАБІЦЬ ЧЫТАЧОЎ У БІБЛІЯТЭКУ?

## Топ-5 цікавых ідэй



*Гомельская цэнтральная гарадская бібліятэка імя А. Герцэна.*

**Як зрабіць, каб бібліятэка мела адметны імідж і наведвальнікі зазіралі сюды не толькі па кнігі? Вынаходлівыя і крэатыўныя бібліятэкары знаходзяць безліч адказаў на гэтыя пытанні і такім чынам робяць наша культурнае жыццё больш насычаным і яркім. Досвед калег заўсёды карысны, таму прапануем топ-пяць цікавых ідэй ад супрацоўнікаў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. Герцэна.**

### 1. СТВАРАЕМ УНІКАЛЬНЫ МУЗЕЙ

Бібліятэчны музей — выдатная нагода запрасіць школьнікаў і студэнтаў на экскурсіі ды міні-лекцыі. Так патэнцыйныя чытачы, прынамсі, змогуць адказаць на сакраментальнае пытанне «Як прайсці ў бібліятэку?» і пры нагодзе завітаюць сюды самі.

Пачатак XXI стагоддзя — час музеяў самай рознай тэматыкі: музей марцыпанаў, музей сняжынак, музей шпіянажу... Дасведчаныя бібліятэкары ведаюць, што няма ніводнай тэмы, якую нельга не звязаць з выданнямі, якія захоўваюцца ў кніжным фондзе. Яшчэ лепш, каб тэма мела дачыненне да мясцовай гісторыі, што гарантуе ўнікальнасць музея. Пазнаёміцца з «блізкай гісторыяй» Гомеля запрашае музей аўтографаў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі.

На працягу многіх гадоў кніжніца спрыяла развіццю краязнаўства. У свой час тут збіралася Гарадское краязнаўчае таварыства, якое ўзначальваў Анатоль Сцяпанавіч Кузьміч. Цяпер у бібліятэцы дзейнічае музей, які налічвае больш за тысячу аўтографаў, так ці інакш звязаных з гісторыяй Гомеля.

У калекцыі пераважаюць аўтографы беларускіх і замежных пісьменнікаў. Сярод адметных — надпісы Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Аляксандра Салжаніцына, Яўгенія Еўтушэнкі. Ёсць тут і аўтографы іншых знакамітых людзей: касманаўта Юрыя Гагарына, рэжысёра Кшыштафа Занусі. Памятныя надпісы часта пакідалі госці горада, але ёсць у музеі і аўтографы, прывезеныя гамяльчанамі з уласных падарожжаў.

Аўтографы змешчаны на самых розных носьбітах — буклетах, тэатральных афішах і нават на футбольным мячы — ад гомельскай футбольнай каманды. Гэтыя рэчы расказваюць пра гісторыю горада, захоўваюць памяць пра адметных асоб. Дзякуючы рэкламнай акцыі «ЛіМа», калекцыя музея папоўнілася яшчэ на дзевятнаццаць аўтографаў.

У памяшканні музея ў межах праекта «Жывы аўтограф» ладзяцца выстаўкі жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мастацкай фатаграфіі. «У нашым горадзе шмат творчых людзей, таму выставачныя пляцоўкі вельмі запатрабаваныя. Наша бібліятэка прываблівае нават вядомых мастакоў, — распавядае дырэктар Таццяна Уласава. — Мы маем дзве экспазіцыйныя залы, два разы на месяц адкрываем новую экспазіцыю. Робім акцэнт на моладзь: выстаўкі ў нашай бібліятэцы часта становяцца першым штуршком для творцаў».

Як адзначаюць супрацоўнікі, вялікі поспех маюць выстаўкі з арыгінальнай канцэпцыяй. Напрыклад, выдатныя ўражанні пакінула выстаўка, прымеркаваная да Сусветнага дня тэатра, на якой былі прадстаўлены эскізы да спектакляў, касцюмы і фота да знакамітых спектакляў Гомельскага абласнога драматычнага тэатра «Дванаццатая ноч», «Чорная панна Нясвіжа», «Вечны Фама».



*Заняткі ў лабараторыі творчых чытанняў.*

### 2. ЗАПРАШАЕМ НА ЛІТАРАТУРНЫЯ КВЭСТЫ

Як зрабіць літаратурны юбілей запамінальным для моладзі? Супрацоўнікі Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі маюць на сваім рахунку квэсты па паэме «Новая зямля» Якуба Коласа, аповесцях «Людзі на балоце» Івана Мележа і «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра. Запамінальнай падзеяй быў квэст па кнізе «Шляхціц Завальня» Яна Баршчэўскага, які ладзіўся ў межах бібліяночы. Літаратурная гульня-пошук, звязаная з героямі і сюжэтамі кніг, напраўду дапамагае прывабіць да класікі: усе выданні «Шляхціца Завальні» на месяц зніклі з паліц абанемента. Спачатку чытачы рыхтаваліся да ўдзелу ў квэсце, а потым знаёміліся з дзівосным светам фантастычных апавяданняў на канапе ці за пісьмовым сталом. Літаратурныя квэсты, інтэрактыўныя праграмы ладзіліся і па іншых вядомых творах: «Аліса ў Краіне цудаў», «Дванаццаць крэслаў», «Вечары на хутары каля Дзіканькі». Галоўнае, каб творы былі яркімі і маляўнічымі, бо вельмі важна стварыць прыгожае відовішча!



*Квэст-тур на музеі аўтографаў.*

### 3. АРГАНІЗОЎВАЕМ ЦЫКЛ СУСТРЭЧ З ВЯДОМЫМІ АСОБАМІ

Публічная лекцыя — традыцыйная форма падачы матэрыялу. Але калі яе чытае паважаны, вядомы ў горадзе чалавек, бібліятэчная зала будзе поўная, і цікавасць да мерапрыемства можа пераўзысці чаканні арганізатараў. Так, у Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы літаратурны праект «Кола чытання» вядзе архімандрыт Сава (Мажука) — насельнік Гомельскага Свята-Мікольскага мужчынскага манастыра. Архімандрыт Сава абмяркоўвае з чытачамі творы розных эпох і краін: ад антычнасці да сучаснага фэнтэзі. І, на вялікае здзіўленне бібліятэкараў, нават такі твор, як «Боская камедыя» Дантэ Аліг'еры, выклікаў ажыўленую дыскусію. Па просьбах чытачоў было праведзена дзве сустрэчы па творчасці італьянскага паэта і мысляра.

Сустрэчы з прадстаўнікамі праваслаўнай царквы выклікаюць сёння вялікую цікавасць. Таму супольна са Свята-Мікольскім манастыром бібліятэкары арганізавалі і дыскусійны клуб. Адна з апошніх дыскусій, прысвечаная паганству, выклікала актыўнае абмеркаванне нават у сацыяльных сетках.

### 4. ЗБІРАЕМ ДЗЕТАК НА ТВОРЧЫЯ ЧЫТАННІ

Кожны чацвер гомельскіх дашкалят сустракае лабараторыя творчых чытанняў «Крок за крокам». Кіраўнік лабараторыі чытае ўголас казку альбо апавяданне, абмяркоўвае з дзецьмі галоўную тэму твора (у непасрэднай, жывой атмасферы можна задаваць любыя пытанні), а потым пачынаецца самае цікавае: творчая частка, калі па матывах кнігі слухачы робяць цікавыя вырабы. Невялікія групы дазваляюць прысвяціць кожнаму дзіцяці належную ўвагу, дапамагчы з выкананнем творчых заданняў. Такія заняткі не толькі знаёмяць з чароўным светам кнігі, але і вучаць працаваць у калектыве равеснікаў, рыхтуюць да школьных заняткаў. Лабараторыя творчых чытанняў таксама дапамагае бацькам стаць больш актыўнымі, цікава і карысна бавіць час разам з нашчадкамі. Таму праектам зацікавілася гомельскае тэлебачанне: непасрэдна на занятках лабараторыі творчага чытання здымаецца праграма «Дзіцячая гадзіна», якая рыхтуецца супрацоўнікамі дзіцячай залы ГЦГБ. Жыхары іншых рэгіёнаў рэспублікі могуць паглядзець відэа на сайце ўстановы.

Для школьнікаў у кніжніцы дзейнічае праект «Беларускія пісьменнікі — дзецям». Супрацоўнікі расказваюць пра сучасных беларускіх творцаў — Алену Масла, Людмілу Рублеўскую і многіх іншых, чытаюць дзецям іх кнігі. Дарэчы, Сусветны дзень чытання бібліятэка адзначыла выключна з беларускамоўнымі творамі. «Дзяцей заўсёды можна зацікавіць добрай кнігай, не істотна, на якой мове яна напісаная», — сцвярджае Таццяна Савельеўна.

### 5. ЛАДЗІМ ТЭАТР

На адным з заняткаў лабараторыі творчых чытанняў дзеці разам з настаўнікам выразалі з кардона фігуркі герояў і ў адмысловым тэатры — невялікай склеенай з кардона скрыньцы з шырмачкамі — зладзілі спектакль па прачытаным творы. Дзецям спадабалася, і бібліятэкары вырашылі стварыць сапраўдны тэатр ценяў з вялікай шырмай і сур'ёзнымі пастаноўкамі.

Тэатр ценяў — мастацтва, якое з'явілася прыкладна 1700 гадоў таму ў Кітаі. Каб зладзіць спектакль, патрэбны вялікі паўпразрысты экран і плоскія марыянеткі, якія рухаюцца на тонкіх палачках. Супрацоўнікі бібліятэкі вырабляюць фігуры з кардона. З сілуэтных дэкарацый і лялек ствараюцца дынамічныя кадры — карціны і вобразы спектакля. Тэатральная майстэрня мае ў камандзе і супрацоўніка, які адказвае за мантаж аўдыятвора.

Праект распачаўся сёлета, але ў рэпертуары тэатра «Казкі святла і ценю» — ужо шэсць пастановак: «Калядныя цуды», «Марозка», «Брэменскія музыкі», спектаклі па матывах казак «Віні Пух і ўсе, усе, усе», «Аліса ў Краіне цудаў», «Прыгоды парсючка Фунціка».

Мастак імкнецца не толькі ілюстраваць тэкставую аснову, але і напоўніць спектакль асацыяцыямі ды сімваламі. Такім чынам, тэатр спрыяе развіццю вобразнага мыслення, фантазіі і ўяўлення і, безумоўна, дапамагае прывабіць да кнігі. Дарэчы, тэатр ценяў і лабараторыя творчых чытанняў, аказаліся настолькі запатрабаванымі, што нават прыносяць прыбытак!

Супрацоўнікі Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі ідуць насустрач чытачам, шукаюць формы работы, якія зацікавяць наведвальнікаў. Таму пералік праектаў можна доўжыць. А чым адметная ваша бібліятэка? Чакаем допісаў у рубрыку «Бібліятэчны сшытак»!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

***Здымкі прадастаўлены ГЦГБ імя А. Герцэна.***

# У дыялогу

Творы Джэрарда Даторы былі прывезены з музейнага збору Палацца дэла Пенна ў Перуджы і прыватных калекцый. Адабралі самыя якасныя і вядомыя італьянцам карціны мастака-футурыста ў памяць пра саракагоддзе з дня яго смерці. Праект атрымаўся маштабным. Над яго рэалізацыяй арганізатары працавалі больш як год.

Асацыяцыя «Архівы Джэрарда Даторы» прэзентавала мноства розных дакументаў. Прадстаўлены аўтограф самога Даторы, лісты яго сяброў, паштоўка з выявай карціны Марка Шагала, дасланая яго сябрам, таксама ўдзельнікам футурыстычнага руху. Прадстаўлены яшчэ вельмі цікавы дакумент 1932 года, па якім Асацыяцыя незалежных украінскіх мастакоў просіць Даторы быць рэдактарам іх часопіса. І гэта пацверджанне таго, што на нашых славянскіх землях Даторы быў вядомы і меў аўтарытэт сярод творчай супольнасці.

Калі разважаць пра футурызм, трэба разумець, што гэты рух быў цесна звязаны з імем Філіпа Тамаза Марынета. У экспазіцыі прадстаўлены тры лісты Марынета да Даторы, якія падкрэсліваюць сувязь аўтара з заснавальнікам руху. Да пісем прыкладаецца кароткі іх пераклад, праз які гледачы могуць даведацца, як мастакі абмяркоўваюць рух, дамаўляюцца аб яго развіцці і замацаванні пазіцый.

Адным з важных твораў Джэрарда Даторы ў экспазіцыі з'яўляецца карціна «Выбух», напісаная ў 1916 — 1917 гадах. Яна адносіцца да гераічнага перыяду (усяго іх было тры) футурызму, калі многія прадстаўнікі гэтага кірунку ішлі на фронт. У творы Даторы выдатна прадстаўлена канцэпцыя сілы і ўлады. Аўдыяльныя і візуальныя ўражанні ад выбуху Даторы аб'ядноўвае ў разнастайнасць маленькіх водблiскаў, якія ператвараюцца ў адну вялікую сілу. Аднак не ўсе гледачы ўспрымаюць карціны з трагічнага пункту гледжання, хтосьці, наадварот, бачыць выбух радасці. Гэты факт заўсёды раздражняў аўтара.

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.


Джэрарда Даторы «Умбрыйскае возера», 1942 г.

Таксама на выстаўцы можна бачыць футурыстычныя вершы, напісаныя мастаком на вайне. Яны таксама аб'яднаны эмацыйна. Адна графічная праца мае на адваротным баку пасведчанне аб яго ўдзеле ў Першай сусветнай вайне.

Арганізатары раскрылі творчасць майстра шматвектарна. Як адзначае старшыня культурнай асацыяцыі «Архівы Джэрарда Даторы» Масіма Дуранэці, якасць твораў не вымяраецца памерам палотнаў. Італьянцы прывезлі ў Мінск як культавыя работы Даторы, так і створаныя на пачатку кар'еры. Ёсць карціны, у якіх прасочваецца тэхнічны бок працы. Часам мастака папракалі, што ён не валодае рэалістычным жывапісам, але многія работы сёння даказваюць: майстар бачыў рэальнасць праз прызму ўласных перакананняў. Калісьці Шагал вучыўся ў рэаліста Пэна, але гэта не перашкодзіла яму стаць выдатным авангардыстам. Так і Даторы таксама выдатна сумяшчаў рэалізм і авангард. Пра гэта сведчыць карціна «Умбрыйская дзяўчына». Мастак адлюстраваў вобраз сястры Б'янкі і тут жа зрабіў яго затуманеным.


Джэрарда Даторы «Выбух», 1916 — 1917 г.

Залатая сярэдзіна экспазіцыі — карціны ў стылі аэражывапісу Джэрарда Даторы. Майстар перадае пейзаж, які дакладна зыходзіць з футурыстычнай канцэпцыі. Яго погляд на пейзаж з самалёта ператвараецца ў даследчую працу. Ён не падзяляе пейзаж на матэрыі, хутчэй сістэматызуе па колеры і структуры прасторы, спрабуе даць гледачу адчуванне хуткасці і руху. У аэражывапісе Даторы ўражвае асаблівая перадача паветра і яго чысціні.

— У Мінск Пасольства Італьянскай Рэспублікі прывезла адразу чатырнаццаць карцін знакамітага творцы Джэрарда Даторы. Яго аэраграфіка — вялікі крок наперад, — расказвае куратар карпаратыўнай калекцыі «Белгазпрамбанка» Аляксандр Зіменка. — Задоўга да вынаходніцтва квадракоптара майстар разумеў прынцып маштабнага агляду, ведаў, як адлюстраваць краявід з вышыні птушынага палёту. Сучасныя блогеры думаюць, што вынаходзяць абсалютна новы від мастацтва, але паўтараюць навацыі 30-х гадоў XX стагоддзя.

Нярэдка ў карцінах аўтар выкарыстоўваў эфект «рыбінага вока», тым самым акцэнтаваў увагу на маштабе, экспазіцыйнасці прасторы. Некаторыя работы намаляваныя акварэльным алоўкам, такім чынам аўтар адцягвае ўвагу гледача ад цывілізацыйных аб'ектаў, сутыкае з прыродай, яе прыгажосцю, зграбнасцю. Менавіта акварэльным алоўкам майстар стварае графіку, якая ўспрымаецца маляўніча. Ён адзін з самых яркіх прадстаўнікоў такой тэхнікі: узаемазамяняе вобразы. Горы, напрыклад, пераходзяць у аблокі, аблокі — у рэкі, а рэкі — у вясёлку. Даторы таксама любіў прыдумляць персанажаў, адсылаючы іх да вобразнасці Італіі. Каб глядач заглыбіўся ў творчасць італьянскага майстра, спецыяльна для выстаўкі арганізатары падрыхтавалі тэксты па футурызме, аэражывапісе, склалі больш дэталізаваную біяграфію Джэрарда Даторы.

З карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка на выстаўцы — па два творы Марка Шагала і Хаіма Суціна: вядомыя шагалаўскія «Закаханыя» і «Гадзіннік на небе, што палае», знакаміты суцінскі партрэт «Ева» і пейзаж «Вялікія лугі ў Шартры каля віядука». З калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея прадстаўлена дзве працы Надзеі Хадасевіч-Лежэ: літаграфія і шаўкаграфія 1960-х гадоў, скапіраваная з работ 1920 гадоў. Мастачка вучылася ў Малевіча, які калісьці таксама быў прыхільнікам футурызму. Затым у Парыжы доўгі час кантактавала з Шагалам. Відавочна, што ў яе стылі прысутнічаюць адсылкі да знакамітых майстроў таго часу. Сучасныя гледачы з задавальненнем аналізуюць творчасць майстроў дваццатага стагоддзя.

**Вікторыя АСКЕРА**

# «МАЎКЛІВАЯ» РАЗМОВА, альбо Ці трэба разгадваць сімвалы?

Ці часта мы ставімся скептычна да творчасці маладых мастакоў? І чаму дазваляем сабе думаць, што ў маладым узросце аўтары не здольныя здзівіць? Наша стагоддзе ламае стэрэатыпы і даказвае, што маладыя творцы ствараюць работы, якія чапляюць і інтрыгуюць змястоўнай глыбінёй. Мастачка Дзіяна Каласовіч неаднаразова прадстаўляла свае работы ў Беларусі, але персанальных выставак не было. І вось, нарэшце, мара здзейснілася. У Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» працуе яе першая выстаўка «Вобраз жыцця», дзе аўтар паспрабавала праз жывапіс захапіць гледача ўласным светаадчуваннем і гармоніяй.

Дзіяна Каласовіч аддае перавагу кантраснасці і завуаляванасці. Яе карціны — эмацыянальнае паглыбленне ў прастору прыроды, грацыёзных вулачак, прыгожых дамоў. У яе творах няма штампаў: калі вы бачыце на палатне горад, не трэба глядзець на назву альбо спрабаваць разгадаць сімвалы. Проста атрымлівайце ад твора асалоду. Апыніцеся там, дзе вам хочацца, куды кліча душа. Гэта і ёсць адказ на пытанне, чым захапляе творчасць маладых. Яна свабодная і лёгкая. Тут таксама можна перажываць, знаходзіць эмацыянальны пасыл, быць на энергетычна прыемнай хвалі.

Асобнае месца ў экспазіцыі займаюць пейзажы і нацюрморты. Іх аб'ядноўваюць казачныя матывы, нават элементы містычнасці. Гэта таксама прыцягвае ўвагу, і ты быццам удзельнічаеш у своеасаблівай «маўклівай» размове, дзе разумееш: вобразы не запазычаныя з кніжак і легенд, яны ўласныя, выдуманыя.

Творчасцю Дзіяна захапілася з маленства. Акварэль, пастэль, аловак і вугаль — матэрыялы, якія натхнялі і дазвалялі ўвасабляць самыя смелыя ідэі і мары, пазначаныя ў сотнях замалёвак, эскізаў... Яна не бачыла сябе ў іншай прафесіі і мэтанакіравана рухалася да мары.

Сёння мастачка папулярызуе сваю творчасць не толькі ў краіне, але і за яе межамі. Калекцыянеры Санкт-Пецярбурга і Масквы набываюць яе творы і не сумняваюцца ў перспектывах маладой мастачкі. На стварэнне новых сюжэтаў і канцэпцый Дзіяну натхняе жыццяпіс вялікіх майстроў, а таксама ўзаемадзеянне з іншымі мастакамі і крытыкамі.

**Вікторыя АСКЕРА**


Пейзаж, 1942 г.

# Спявак VS Акцёр

## Суіснаванне музычнага і драматычнага пачатку ў оперы

**У кожным тэатры пануе непаўторная атмасфера, якая вымагае сваёй спецыфікі працы. Музычныя тэатры вызначаюцца не толькі пасадамі балетмайстра і канцэртмайстра, падрыхтоўкай танцораў і спевакоў, але і асаблівым падыходам да пастаноўкі ад усіх супрацоўнікаў. Галоўны рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Міхаіл Панджавідзэ сустрэўся з журналістамі падчас Дня адкрытых дзвярэй і распавёў, навошта спевакам акцёрскае майстэрства, чым рэжысёрская опера адрозніваецца ад дырыжорскай, як рыхтуюцца да дэбютаў маладыя артысты і куды крочыць сучаснае опернае мастацтва.**



*Галоўны рэжысёр тэатра Міхаіл Панджавідзэ ў сваім кабінеце.*

*Фота Сяргея Нікановіча.*

### БЫЦЬ АКЦЁРАМ

— У мяне пытаюць, што трэба зрабіць для таго, каб стаць акцёрам. Людзі займаюцца акцёрскім майстэрствам чатыры гады і ў выніку разумеюць, што гэтай працы неабходна прысвяціць усё астатняе жыццё. Ніякай таблеткі для акцёрства прапанаваць не магу. Артысты оперы ўвогуле вымушаныя рабіць падвойную працу — выконваць ролю ды спяваць, таму іх мастацтва патрабуе высокага ўзроўню акцёрскага майстэрства.

Калісьці мы, студэнты факультэта музычнага тэатра ГІТІСа, усур'ёз кпілі з нашых калег на драматычным факультэце. Пыталі ў іх: «Што вы ўмееце рабіць з таго, чаго не ўмее сярэднестатыстычны чалавек?». Здавалася, чалавек без комплексаў, з добрым знешнім выглядам, абаяльны, не сарамлівы таксама можа выйсці на сцэну і паводзіць сябе «як у жыцці». Драматычныя акцёры 4 гады вучыліся свабодна адчуваць сябе на сцэне, а нам, каб стаць сапраўднымі спевакамі, трэба было шмат працаваць, і нават гэтага магло быць недастаткова. Вядома, такі погляд на рэчаіснасць надта спрошчаны, але ёсць у ім і доля праўды. Я глыбока пераканаы: мы выпускаем з навучальных устаноў тых, каго прымаем. Як правіла, здольныя хлопцы і дзяўчыны выдатна з усім спраўляюцца, застаюцца здольнымі ад першага курса да апошняга. Кафедра опернай падрыхтоўкі, безумоўна, дапамагае, але талент адчуваецца да пачатку заняткаў па акцёрскім майстэрстве.

Трэба заўважыць, што кансерваторыя — гэта епархія спевакоў. Оперная кафедра там як кажан у жывёльным свеце: не птушка і не звер. Яе лічаць за неабходнае зло, што адбірае час у студэнтаў, якія замест акцёрскіх заняткаў лепш праспявалі б некалькі дадатковых вакальных цыклаў. Яшчэ на першым курсе будучага акцёра оперы сустракаюць збітай фразай: «На праслухоўванні ніхто не будзе патрабаваць ад цябе акцёрскае майстэрства. Пытацца будуць пра голас». Гэтая думка замацоўваецца ў падсвядомасці абітурыентаў ды існуе на працягу ўсяго часу навучання. На жаль, такая сусветная практыка. Як вынік — пасля профільнага навучання маладыя акцёры оперы не ведаюць, як паводзіць сябе падчас спектакля.

### ТРАГІКАМІЧНАСЦЬ ДЭБЮТУ

— Асобы, якія добра валодаюць голасам і насуперак усяму навучыліся спяваць, трапляюць у тэатр. І вось тут пачынаецца самае смешнае. Уявіце сябе на месцы няшчаснага дэбютанта: практыкі — нуль, сцэнічнага досведу — нуль, з аркестрам за ўсё жыццё добра калі два разы выступаў, і тое на конкурсах. Касцюмеры нацягваюць на цябе сцэнічны строй (памятайце, што артыст зусім малады, таму строй часта прапануюць з чужога пляча), у руку даюць незразумелы дрын, горда названы мячом (не звяжайце, што ён драўляны). Паверыць у рэальнасць падзей складана, але спектакль не будзе чакаць вечна. Выходзіш на сцэну. За кулісамі шыпіць канцэртмайстар, які дапамагаў рыхтавацца да выступу; у зале сядзіць педагог па вакале і падае незразумелыя знакі з лексікону вакалістаў; наперадзе ўзвышаецца дырыжор, які загадзя ўпэўнены, што нічога добрага ад цябе чакаць нельга; у яме заняў месцы абыякавы аркестр; увесь выгляд музыкаў сведчыць пра тое, што яны за час працы і не такіх спевакоў чулі; нейкі экспансіўны выканаўца з аркестра дае найкаштоўнейшыя вакальныя парады; навокал — народныя артысты, якія добра ўсведамляюць, што ты — іх непазбежная сцэнічная смерць, бо з цягам часу новыя акцёры оперы іх заменяць; сярод усяго гэтага сядзіць рэжысёр, які, натуральна, загадзя пачаў праклінаць усё на свеце і крычаць: «Каго вы выпускаеце на сцэну?! Вучыце, нарэшце, артыстаў, мне яго "лысы" голас не патрэбны!». Відавочна, малады артыст перашкаджае ўсім.

Потым надыходзіць час прэм'еры. Выключаецца святло, і ты нічога не бачыш. Пачынае спяваць хор, і цяпер ты яшчэ нічога не чуеш. У гэты момант нехта пхае ў бок: «Дурань, ідзі налева, налева!». Паслухмяна крочыш улева, дзе раптам наскокваеш на нейкую дэкарацыю (шанцуе, калі тая дэкарацыя шчыльна прыбітая да свайго месца і не падае) або ўразаешся ў чарговага партнёра па сцэне, які пачынае штурхаць у іншым напрамку.

У выніку няшчаснае дзіцё выдае запаветнае «Кушать подано!» у іншай танальнасці і несвоечасова. Вяртаецца ў істэрыцы ў грымёрку. Выходзіць на паклон з тварам пакутніка, а яму нясуць велізарны букет (большы за букет у прымы тэатра), таму што дзеля ўрачыстага выпадку запрошаныя на спектакль мама, тата, бабуля, дзядуля, сёстры, браты ды іншыя сваякі скінуліся на кветкі.

Смешна, крыўдна, горка — прыкладна так адбываецца сярэднестатыстычны дэбют. Каб пазбегнуць такіх праблем, у оперы існуе рэжысёр.

### ПАМІЖ ДЫРЫЖОРАМ І РЭЖЫСЁРАМ

— Рэжысёр патрэбны для таго, каб у оперы былі падрыхтаваныя акцёры. Барыс Пакроўскі лічыў оперу найвышэйшай праявай тэатральнага мастацтва. Так і ёсць. Навучыцца патрэбнаму артыстызму надзвычай складана, а цяпер не тыя часы, калі можна не звяжаць на акцёрскую частку. Раней, у так званай дырыжорскай оперы, было інакш. Сямнаццацігадовую дзяўчыну наўпрост спявала мажная артыстка сярэдніх гадоў, а побач з ёй вёў партыю герой-палюбоўнік — маленькі, немалады мужычок. Дырыжор патрабаваў, каб артыст глядзеў на яго неадрыўна. Не глядзець на дырыжора тады ўвогуле лічылася маветонам. Было цалкам натуральна, калі галоўны герой і гераіня, стоячы адзін да аднаго паўбокам, паведамлялі пра сваё палкае каханне або лютую нянавісць… дырыжору. Вядома, опера!

На змену такой оперы прыйшла опера рэжысёрская, якая ўлічыла папярэдні досвед і навучыла артыстаў быць не толькі спевакамі, але і акцёрамі. Прыкладамі рэжысёрскай оперы сёння поўніцца тэлеканал «*Mezzo*». Тыя, хто мае магчымасць наведваць тэатры за мяжой, бачаць гэтую тэндэнцыю паўсюль. Між іншым справа рэжысёра ў тэатры оперы ўскладненая спецыфічнымі патрабаваннямі гэтага віду мастацтва. Яму трэба ўраўнаважыць шмат далікатных момантаў, з якімі можна не сутыкнуцца ў іншых тэатральных жанрах. Напрыклад, мастак зрабіў выдатны малюнак з дэкарацыямі да спектакля, а спецыялісты, адказныя за балет і спевы, бачаць нейкія дзіўныя і зусім непатрэбныя канструкцыі, дзе немагчыма ні спяваць, ні танцаваць. І мастак, які ўяўляў сабе дзею зусім інакш, ламае тое, што пабудаваў. Асобная справа — мастацкі савет. Часам здаецца, што гэта свята сяброў, дзе яны маюць магчымасць нарэшце падштурхнуць рэжысёра. На генеральную рэпетыцыю, як правіла, збіраецца другі склад артыстаў, які рэпеціраваў менш, святло яшчэ недастаткова наладжанае, недаробленыя іншыя дробязі... У мастацкага савета ёсць добрая магчымасць паказаць сваё разуменне жыцця і як след раскрытыкаваць пастаноўшчыка.

### СПЕЦЫЯЛІСТЫ ШЫРОКАГА ПРОФІЛЮ

— У такіх умовах існуюць цяперашнія рэжысёры, і з імі аўтаматычна — цяперашнія акцёры. Няма больш тых спадароў, якія прыходзілі на сцэну «ад сахі» і з заводаў. Акцёры зараз, як правіла, з музычнай адукацыяй, нават маюць пэўную «дзявочую» музычную прафесію. Усе валодаюць мовамі, ходзяць на фітнес, танчаць, спяваюць. Тут заўважная іншая тэндэнцыя: яны робяць усё, але патроху. Трошкі спяваюць, трошкі танчаць, трошкі граюць — спецыялісты шырокага профілю. Я бачу, якая моладзь прыходзіць да нас у тэатр. Вядома, вельмі прыемна, калі на аб'яву аб праведзенні двухгадовай стажыроўкі ў Вялікім тэатры Беларусі адгукаюцца выпускнікі не толькі з беларускіх ВНУ, але і з расійскіх, украінскіх, літоўскіх. Мы сталі цікавыя ўжо не толькі для свайго гледача, пачынаем паступова інтэгравацца ў вялікую сусветную прастору. Спадзяюся, гэта будзе і Расія, і Азія, і Еўропа.

Ведаеце, рэжысёрская опера — гэта часам дрэнна. Можна занадта паглыбіцца ў эфектнасць, і ў выніку ўбачыш, што Кармэн па сцэне на ровары катаецца. Але нават такое дапушчальна, калі зроблена таленавіта і з сэнсам. Напрыклад, нядаўна я ставіў спектакль «Кыз Жыбек» у казахстанскім тэатры «Астана Опера». Гэта добры ўзор таго, як павінны працаваць, валодаць целам і рухамі сучасныя акцёры. Падчас спектакля яны ўзаемадзейнічаюць з 3D-графікай, відэапраекцыямі і нават сапраўднымі жывёламі — вярблюдамі і конямі. Уявіце, што гэта: праспяваць арыю седзячы на кані! Цяпер у тэатральнага мастацтва шмат новых магчымасцяў і сродкаў выразнасці, таму сучасная опера надзвычай багатая на інавацыі. Вялікі тэатр Беларусі, як і тэатры оперы па ўсім свеце, імкнецца не адставаць ад хады часу.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## ЛЕТА — ДЛЯ БАЛЕТА

**Вядомыя танцоўшчыкі з'едуцца на фестываль у Вялікі тэатр Беларусі.**

Фестываль «Балетнае лета» з 11 па 18 чэрвеня пройдзе на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

Адкрыццё фестывалю адзначыць выступ аркестра беларускага Вялікага тэатра пад кіраўніцтвам маэстра Андрэя Іванова, які сустрэне гасцей імпрэзы цудоўнымі вальсамі Штрауса. Першым балетам праграмы абралі «Лебядзінае возера» Пятра Ільіча Чайкоўскага. Гэтым вечарам партыі Адэты-Адыліі ды Зігфрыда выканаюць салісты балета Нацыянальнай оперы Украіны Анастасія Шаўчэнка і Станіслаў Альшанскі. Наступным разам у чароўнай атмасферы «Лебядзінага возера» будуць танцаваць вядучая салістка Тбіліскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета Ніно Самадашвілі і заслужаны артыст Расіі Ігар Колб з Марыінскага тэатра (Санкт-Пецярбург).

Артысты тэатра «Астана Балет» падрыхтавалі для беларусаў насычаную гастрольную праграму. У межах фестывалю яны пакажуць аднаактовыя балеты «*Love Fear Loss*» (створаны па матывах біяграфіі Эдыт Піяф на аснове музыкі спявачкі), «*Gaia*» (сучасны харэаграфічны расповед пра лёс планеты Зямля на музыку Хекеля Таквераса і Ісака Альбеніса), а таксама «Туманы часу» Ісяна Чжана, маладога харэографа з Кітая. Разынкай аднаактовага балета-фантазіі «Кармэн», інтэрпрэтаванага харэографам-пастаноўшчыкам і аўтарам лібрэта Мукарамам Авахры, будзе з'яўленне на сцэне ажно пяці Кармэн: пяць балерын увасобяць розныя вобразы і раскажуць розныя танцавальныя гісторыі. Паглыбіцца ў гісторыю балетнага сусвету дапаможа работа харэографа Рыкарда Амарантэ. Яго рэтраспектыўная пастаноўка «Разнастайнасць танца» на музыку Вольфганга Амадэя Моцарта, Пьетра Масканьі, Людвіга Мінкуса, Жуля Маснэ, Аляксандра Глазунова, Антоніа Вівальдзі, Сяргея Рахманінава, Шарля Гуно, Каміля Сен-Санса, Макса Бруха адлюстравала станаўленне харэаграфічнага мастацтва. Лепшыя нумары з рэпертуару казахстанскага тэатра прадэманструе танцавальная праграма «Астана Балет GALA».

Фіналам «Балетнага лета» стане гала-канцэрт зорак сусветнага балета, дзе разам з артыстамі Вялікага тэатра Беларусі на сцэну выйдуць славутыя танцоўшчыкі і оперныя спевакі з Расіі, Казахстана, Польшчы, Германіі.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ДЗМІТРЫЙ ЗАЙЦАЎ:
# «НАСЛАННЁ, АД ЯКОГА НЕ ПАЗБАВІЦЦА…»

**Дзмітрый Зайцаў у кіно ўжо 58 гадоў. У самым пачатку кар'еры стужка, над якой ён працаваў, атрымала прыз на Венецыянскім кінафестывалі, яго экранізацыі ўвайшлі ў гісторыю беларускага кіно, і цяпер, у няпростыя для кінематаграфістаў часы, Зайцаў зняў дакументальны фільм і заняты працай над сцэнарыем ігравога фільма…**



**— Дзмітрый Яўгенавіч, ваша новае кіно — дакументальная стужка пра мастака. Чаму абралі менавіта гэтага героя?**

— Мы з Юрыем Ялховым знялі «Зачараваны імгненнем» разам, абодва былі і рэжысёрамі, і аператарамі. У выніку атрымаліся тры стужкі — пра майстэрню Мікалая Ісаёнка, яго карціны і самого творцу. Ідэя з'явілася ў мяне пасля таго, як я схадзіў на выстаўку мастака — амаль паўтара года мы размаўлялі і здымалі. Асоба гэтага творцы вельмі недаацэненая ў краіне — у яго шмат гадоў не было ніякіх званняў, узнагарод, нават выставак. А карціны Ісаёнка паказвалі ў Францыі і Амерыцы, там яны захоўваюцца і сёння, яго імя ўнесена ў Кембрыджскі біяграфічны слоўнік. Таму вырашылі, што і сам мастак, і яго творчасць вартыя захавання на кінастужцы. Самае важнае для мастака — успрыманне свету і вобразнасць. Вось чым цікавы Ван Гог? Яго сланечнікамі можна захапляцца вечна, нягледзячы на сезон ці надвор'е. Тое ж самае і з Ісаёнкам: яго творы не залежаць ад часу, ён беларускі Манэ.

**— Гэтая вобразнасць блізкая і вам, бо вы прыйшлі ў рэжысуру з аператарства…**

— Так, аператарства патрабуе вялізнай увагі да фактур, рэчаў, выяў. Бо кіно — гэта ў нейкай ступені выява, што вельмі дапамагае ў выказванні думак, таму трэба ўмець «жыць» побач з рэжысёрам, разумець яго цалкам, інакш нічога не атрымаецца. У канкрэтны момант гэтыя фактуры становяцца не такімі цікавымі. Не, я не маю на ўвазе, што яны становяцца горшымі. Гэта іншае, што асабліва заўважаеш, калі пачынаеш працаваць з вялікімі рэжысёрамі. Аператара пачынае цікавіць чалавечая існасць — што ўнутры героя, яго думкі і светапогляд, трохкутнікі, якія ўзнікаюць вакол яго. Калі гэта пераважае, то аператар становіцца на пазіцыю рэжысёра: а чаму б не зняць кіно самому? Памятаю, як гэта адбывалася ў мяне: вельмі хацеў у рэжысуру, тады я працаваў з Туравым і папрасіў яго адпусціць мяне з аператарскай працы. Але старшыня Дзяржкіно сказаў: «А навошта? Ты ж добры аператар!». У выніку, пасля некалькіх няўдалых спроб, пашанцавала: прапанавалі зняць карціну паводле рамана «Хам» Элізы Ажэшка. З самага паступлення ў ВГІК нашай групе было сказана: калі аператар не бачыць у сабе магчымасці рэжысёра, ён дрэнны аператар. Таму навучанне і выхаванне праходзілі пад гэтым дэвізам. Рэжысура для мяне — справа, якая непадзельна звязаная з аператарскай прафесіяй.

**— Да паступлення ва ўніверсітэт вы шмат працавалі на здымачнай пляцоўцы. Як лічыце, ці можна стаць прафесіяналам без дыплома?**

— Я спачатку працаваў асістэнтам на хроніцы, вельмі доўга пакутаваў, ездзіў з аператарам Міхаілам Бэравым па сёлах зімой і летам, насіў камеру і тэхніку, але мне вельмі пашанцавала, калі я трапіў у групу да Марухіна, Турава, Вінаградава. Гэта было ў 60-х. Тады Анатоль Забалоцкі, з якім я працаваў на «Альпійскай баладзе», сказаў, што мне трэба ехаць у ВГІК, а не працаваць на пляцоўцы, пасля гэтага я звольніўся са студыі і паехаў вучыцца. Але здымачная пляцоўка дала мне шмат. Я думаю, што кінематографу можна і трэба вучыцца на працы: Феліні таксама не вучыўся на рэжысёра, тое ж самае — са Спілбергам і Таранціна. Мяркую, што галоўнае — трапіць на сваё месца, бо структура рэжысуры такая: назіраць, слухаць і браць тое, што табе патрэбна. Я шмат пераняў у Турава — спецыфіку яго працы з акцёрамі і разуменне таго, што здымаць кіно, не знайшоўшы свайго суперажывальніка і аднадумцу, пакутліва і проста немагчыма. Рэжысуры навучыш не нудотнымі тырадамі, а праз уласны светапогляд і бачанне. Бо стужкі таго ж Феліні і цікавыя яго ўспрыманнем свету, поглядам на рэчы, дэталямі, якія ён заўважаў.

**— Вы — адзін з тых рэжысёраў, якія дапамагалі трапіць у кіно маладым. Не страшна было браць на здымкі свайго фільма аператара без досведу?**

— Яшчэ падчас вучобы на ўніверсітэце я быў на практыцы на здымках «Альпійскай балады», працаваў другім аператарам на «Усходнім калідоры». Толькі пасля гэтага я атрымаў сур'ёзную працу над фільмам «Іван Макаравіч». Я вырашыў даць шанец маладому аператару, як калісьці гэты шанец давалі мне: «Зграя» — першы фільм, на які я ўзяў практычна студэнта, аператара Дзмітрыя Рудзя. Ён быў сынам аператара, праводзіў дзяцінства на здымачнай пляцоўцы, дапамагаў бацьку, і я падумаў, што ён ведае структуру кіно. Я спрабаваў не перашкаджаць яму працаваць, часам даваў падказкі. Але ўсё ж прытрымліваюся прынцыпу працаваць толькі з прафесіяналамі, бо сёння тых, хто заканчвае ўніверсітэт, адразу лічаць сябе геніямі. У Брытаніі ці нават Казахстане зусім іншая сістэма: паўтара года студэнты знаёмяцца з кіно, а ўжо потым вырашаюць, кім яны будуць: рэжысёрам, аператарам. Памятаю, калі вучыўся ва ВГІКу, для нас былі адкрытыя дзверы ўсіх кінатэатраў, была магчымасць знаёмства з мэтрамі кінематографа. Я вяду да таго, што толькі такім спосабам можна атрымаць прафесіяналаў: калі людзі разумеюць, хто такія Феліні ці Антаніёні, яны пачынаюць разумець кіно.

Часта кажуць, што трэба даваць дарогу ў кіно маладым, але мяне гэта крыўдзіць: няўжо павінны здымаць толькі маладыя? Час ідзе, у пэўны адрэзак з'яўляецца каханне ці нешта іншае, што адрывае ад рэальнага жыцця, да 29 гадоў робіцца неасэнсаваны ўчынкі, а ўжо потым, каля 50 — 60 гадоў, у чалавека з'яўляецца мудрасць, сур'ёзныя меркаванні, бо жарсці нарэшце сышлі. Гэта той самы час, калі можна асэнсаваць жыццё не толькі ў рэальнасці, але і ў кінематографе. Інгмар Бергман здымаў кіно на дзявятым дзясятку.

**— Карціна «Іван Макаравіч» атрымала «Сярэбраную Мінерву» ў Венецыі, гэта быў ваш першы фільм…**

— Так, прычым дзіцячы і асаблівы для мяне! Мы вельмі доўга шукалі нашага героя Івана Махоніна, пасля трэба было ўвайсці да яго ў давер, падмануць акцёра, каб ён верыў у рэальнасць сцэнічнага дзеяння. Канечне, калі здымаеш кіно, ёсць своеасаблівае пачуццё радасці, бо характэр прафесіі ў тым, што можна жыць жыццём сваіх герояў, даць жыццё фільму нібы дзіцяці, якога насамрэч ніколі не існавала. Але ў момант, калі стужка атрымала ўзнагароду, я не ўсведамляў таго, што адбылося. Значнасць гэтай падзеі тады была для мяне не такой адчувальнай, як цяпер. У той час для мяне Венецыя была тым самым, чым Пухавічы: я не быў амаль нідзе, не распешчаны прызамі. Цяпер захоўваю выразку з часопіса «Огонёк», дзе напісана, што ўзнагароду фільм атрымаў за высокатэхнічнае ўвасабленне ваеннай тэмы — практычна за аператарскую работу: менавіта аператар дапамагае рэчаіснасці выглядаць натуральнай на экране.

**— Але не страцілі вашыя экранізацыі! Падзяліцеся сакрэтам: як зняць добрае кіно па літаратурным творы?**

— Магу распавесці на прыкладзе «Хама» Элізы Ажэшка. Кніга напісаная вельмі эмацыйна, я бачыў тры польскія экранізацыі. Шчыра кажучы, гэтыя стужкі мяне не ўразілі. Усе фільмы падобныя, амаль нічым не адрозніваюцца. Калі мы пачалі рыхтавацца да здымак і пісаць сцэнарый, то звярнуліся да прафесара з Кракаўскага ўніверсітэта, ён сказаў, што бачыў усе польскія экранізацыі і згодны, што гэта вельмі не падобна да Элізы Ажэшка. Гэта падштурхнула нас знайсці дзённікі пісьменніцы, якія ў выніку разам з яе думкамі ўвайшлі ў сцэнарый. Гэта была, я б сказаў, унутраная патрэба пісьменніцы, якая цалкам змяніла структуру стаўлення да рыбака паўгарадской-паўвясковай służкі Франкі. У выніку атрымалася экранізацыя, якая адлюстроўвала тое, пра што думала і марыла Ажэшка. Экранізацыя — гэта ў першую чаргу твор, пераварaны праз сябе. Шахназараў зняў «Ганну Карэніну» з Лізаветай Баярскай у галоўнай ролі, ёсць яшчэ экранізацыя Салаўёва, шмат замежных фільмаў. І Салаўёў казаў, што «Карэніну» можна пераздымаць бясконца: раман дазваляе рабіць усё, што заўгодна, бо трохкутнік з кнігі можа паўтарыцца ў рэальным жыцці і цяпер. Вось што робіць экранізацыю пазачасавым творам.

**— А як было працаваць над «Людзьмі на балоце»?**

— Шчыра кажучы, калі я прачытаў «Людзі на балоце», не ведаў, як здымаць фільм: усё адбывалася ў вёсцы. Віктар Тураў казаў, што менавіта ў гэтым і справа: яму здавалася, што я, гарадскі, лепш за ўсіх змагу адчуць вёску і прыроду, бачыць незамыленым вокам. Сышліся з рэжысёрам на тым, што калі я люблю Беларусь, то трэба здымаць! Адной з дзеючых асоб у гэтым фільме была прырода. Мы выпадкова знялі эпізод з журавінамі, якія збірае Ганна: выпаў снег, а вакол — чырвоныя ягады. Мы ўбачылі гэта з акна машыны, выскачылі і знялі прыгожую сцэну. Шмат што знялі таму, што не выходзілі з працы над гэтым фільмам ні днём, ні ноччу. А калі паказвалі карціну на Палессі, на радзіме Мележа, то два дзядкі, якіх мы запрасілі на прэм'еру, жыхары гэтай вёсачкі, знайшлі на экране месцы, дзе яны хадзілі. А я здымаў гэтыя эпізоды ў Прыбалтыцы! Мы з Туравым вельмі смяяліся, але міф руйнаваць не сталі. Тураў вельмі разборлівы быў у выбары натуры, яго так і называлі: «Натураў». Бо важна, каб у кіно была тая ж вобразнасць, што і ў кнізе. Мяркую, на гледачоў, якія пераблыталі сапраўднае Палессе з экранным, менавіта гэтая вобразнасць і падзейнічала!

**— Што для вас самае складанае ў працэсе працы над фільмам?**

— Самае складанае... скласці ў выніку карціну! Але нельга падзяляць працэсы па складанасці — усе яны патрабуюць высілкаў, не выпадковых, а асэнсаваных, лагічна абдуманых. Канечне, выпадковасці здараюцца і часам дапамагаюць. Мне пашанцавала з актрысай, якая выканала ролю Франкі. Калі я сустрэў яе на вакзале, не мог і падумаць, што яна стане зоркай фільма (яна яшчэ здымалася ў Анджэя Вайды), раскрые гэтую жаночую сутнасць гераіні.

**— Многія вашы калегі перажываюць творчы прастой. Вам гэтая сітуацыя таксама знаёмая? Як з гэтым змагацца?**

— Раней было так: калі ты сыходзіш у прастой, атрымліваеш за карціну грошы на працягу 3 гадоў. Зараз у кінематаграфістаў няма нічога. Распавяду пра свой досвед: нават калі я не здымаю, пачынаю шукаць іншы занятак, тэму для будучага кіно, шукаю матэрыял для сцэнарыя, гляджу фільмы. Праца не па замове, а асабістая для сябе павінна працягвацца. На маю думку, калі ты гэтым не заняты, то можаш лічыць сябе згубленым. Бессэнсоўна быць рэжысёрам, калі не можаш знайсці сабе працу ці хоць бы ідэю. Магчыма, гэта нікуды не пойдзе, але рабіць трэба — у выніку калісьці спатрэбіцца. А перажыць такую сітуацыю фінансава можна рознымі спосабамі — вагоны разгружаць… Іншых меркаванняў у мяне няма: калі хочаш быць кінематаграфістам — трэба трываць. Кіно — невылечная хвароба, калі ты паглыбіўся, адчуў, што можаш нешта нарадзіць, то гэта не пройдзе. Напрыклад, зараз я пішу сцэнарый па кнізе «Брат супраць брата», амаль палова ўжо гатовая. Гэта гісторыя мінулага стагоддзя пра двух братоў-блізнят, якія аказаліся па два бакі фронту падчас Вялікай Айчыннай. Гісторыя сапраўдная, адбываецца ў Беларусі. Тут і дэтэктыў, і драма, і меладрама — вельмі заблытаны сюжэт, але неверагодна каштоўны для Беларусі. Калі пішаш, то ўжо пачынаеш бачыць, пра што распавядае тэкст. Так і з жыццём: дзе б ты ні быў, каго б ні бачыў, мяркуеш: ці трапна гэта выглядала б у кадры, ці пасавала б фільму. Я б назваў кінематограф насланнём, ад якога нельга пазбавіцца ні днём, ні ноччу. І гэта адбываецца не толькі са мной, а з усімі кінематаграфістамі.

**Маргрыта ДЗЯХЦЯР**

# У «ШУМНЫХ» МОМАНТАХ — ЖЫЦЦЁ



Дзіцячая музычная школа мастацтваў № 2 імя М. Аладава — адна з найстарэйшых не толькі ў сталіцы, але і ва ўсёй рэспубліцы. Сваім нараджэннем яна абавязана Мінскаму аўтазаводу. Па яго ініцыятыве 1 студзеня 1949 г. у пасёлку адкрыўся філіял музычнай школы, а ў 1950 годзе па вуліцы Чалюскінцаў была пабудавана і сама школа, якая з часам пераехала на вуліцу Ангарская. Каля 40 гадоў у сценах гэтай школы загадчыкам аддзялення струнных народных інструментаў працаваў Леў Львовіч Маеўскі.

Першыя яго крокі былі ў аркестры ансамбля песні і танца Мінскага палаца піянераў і школьнікаў, затым навучанне ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. І. Глінкі, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага. У школу на працу ён прыйшоў у 1970 годзе. Стаў кіраўніком аркестра народных інструментаў дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 2 г. Мінска, педагогам класа домры, загадчыкам аддзялення струнных народных інструментаў у гэтай школе. У 1972 г. прызначаны старшынёй секцыі струнных народных інструментаў гарадскога метадычнага савета пры ўпраўленні культуры Мінгарвыканкама. Ужо ў пачатку прафесійнай дзейнасці прадэманстраваў лепшыя якасці педагога, дырыжора, арганізатара дзіцячага ансамбля «Чароўная домра» — калектыву, які неаднаразова быў у ліку пераможцаў на розных конкурсах і фестывалях. Леў Маеўскі быў выдатным арганізатарам, здзіўляў энтузіязмам, мог захапіць вучняў, натхніць калег. Цягам часу ён стварыў ансамбль настаўнікаў-аднадумцаў «Музычны момант».

З вялікай павагай і падзякай ён ставіўся да сваіх настаўнікаў — П. К. Пагоцкага і Г. І. Жыхарава. Маеўскі за свае грошы выдаў кнігу «Г. І. Жыхараў — карыфей народна-інструментальнай музыкі Беларусі» (Мінск, 2015) да 100-годдзя з дня нараджэння віртуоза-выканаўцы, цудоўнага арганізатара, педагога. Неаднаразова артыкулы Льва Маеўскага друкаваліся ў беларускіх газетах, у тым ліку ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». У гэтых артыкулах ён не толькі з цеплынёй выказваўся пра музыкантаў, але і ўздымаў праблемы народнага інструментальнага выканальніцтва ў рэспубліцы.

Каля года таму яго не стала. Але ў школе з вялікай удзячнасцю і павагай успамінаюць свайго выкладчыка, што навучыў чуць і разумець музыку душы.

**Галіна Віктараўна Асмалоўская, прафесар, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь:**

— Леў Львовіч з гонарам прайшоў зямны шлях. Галоўным сваім пакліканнем ён лічыў працу на ніве выхавання музыкаў-прафесіяналаў і аматараў. Домры і мандаліне ён прысвяціў сябе з самых юных гадоў, і гэтая адданасць захоўвалася на працягу ўсяго жыцця.

Маеўскі валодаў вялікай мудрасцю, уражвала шырыня яго інтарэсаў, глыбіня ведаў. Вылучаўся дапытлівасцю, дасціпнасцю, з ім заўсёды было цікава гутарыць, слухаць на ўроках. Вучні яго любілі. Такія якасці, як інтэлігентнасць, добразычлівасць, прыстойнасць, працавітасць, высока шанавалі калегі і ўсе, хто з ім сутыкаўся. Славіўся здольнасцю быць адданым сябрам, гатовым у любы момант працягнуць руку дапамогі. Яго памяць захавала найкаштоўнейшыя звесткі з розных сфер чалавечых ведаў, ён заўсёды быў гатовы падзяліцца любой інфармацыяй з калегамі і вучнямі. Льва Львовіча любілі яшчэ і таму, што ён быў адным з самых таленавітых, самых музычных дамрыстаў. У яго ігры, метадзе работы з вучнямі выяўляліся найтанчэйшыя адценні пачуццяў, выразнасць жывога інтанавання і ў той жа час багацце гукавых фарбаў, дасціпныя знаходкі, гумар, фантазія.

Ён скараў настойлівасцю, актыўнай жыццёвай пазіцыяй, аптымізмам. Нават калі быў цяжкахворы, уражваў мужнасцю, вытрымліваў неймаверныя пакуты. Ён ажыццявіў вялікую працу, задуманую яшчэ да хваробы: захаваць памяць пра свайго настаўніка Георгія Іванавіча Жыхарава, стварыўшы пра яго кнігу. Да гэтай высакароднай мэты ён ішоў, прыкладаючы ўсе сілы, аж да самай смерці.

**Яўген Пятровіч Гладкоў, прафесар, народны артыст Беларусі:**

— Нашы зносіны пачаліся яшчэ ў тыя гады, калі мы гралі ў аркестры Георгія Іванавіча Жыхарава. Аднойчы на рэпетыцыі я сядзеў і чытаў кнігу. Леў Львовіч падышоў паглядзець, і калі ўбачыў, што я чытаю Амара Хаяма, то вырашыў, што будзе са мной сябраваць. І з таго часу пачалося наша сяброўства.

Гэта быў чалавек на дзіва шчодрай душы. І шчодры як музыка: усё, што ведаў і адчуваў, аддаваў людзям. Калі ён сядзеў на нейкім канцэрце, запісваў у сшытак уражанні пра кожны выкананы твор. Я сам атрымліваў ад яго такія паперы пасля сваіх выступленняў. Нават выдатнаму расійскаму музыканту-дамрысту Аляксандру Цыганкову ён даваў падказкі, на што той вельмі здзіўляўся: як Леў Львовіч можа гэта чуць? Аднойчы Цыганкоў у падзяку дастаў з кішэні сваю фатаграфію, падпісаў і падарыў Маеўскаму. Менавіта Леў Львовіч прапанаваў Цыганкову мелодыю «Зоркі Венеры» дзеля таго, каб той зрабіў уласнае пералажэнне.

Калі Маеўскі святкаваў сваё 60-годдзе ў малой зале філармоніі, быў вялікі канцэрт, у якім браў удзел створаны ім ансамбль педагогаў школы «Музычны момант». Невялікі склад, але настолькі «смачна», тонка ўсё было зроблена! Некаторыя творы гучалі як вялікі сімфанічны аркестр.

Леў Маеўскі быў па жыцці «шумны»: увесь час нешта прапаноўваў, раіў, што трэба зрабіць, каб было лепш. Энергічны, мужна пераносіў хваробу. Амаль не скардзіўся, толькі казаў, што не мажа спаць, а так хочацца выспацца… Надзвычай мудрая была асоба.

*У маі Льву Маеўскаму споўнілася б 70 гадоў. Калегі-музыканты і супрацоўнікі дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 2 г. Мінска прысвяцілі яго памяці канцэрт, у якім узялі ўдзел акрамя калектываў школы яго былыя вучні, а таксама музыканты і выкладчыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і салісты Белдзяржфілармоніі.*

**Матэрыял падрыхтаваны аддзяленнем струнных народных інструментаў дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 2 імя М. Аладава г. Мінска.**

# «СЛЯЗА З УСМЕШКАЙ ПАПАЛАМ»

У гісторыі прафесійнай айчыннай музыкі XX стагоддзя рамансу было адведзена пачэснае месца. Старэйшае пакаленне беларускіх кампазітараў пакінула вялікую колькасць цыклаў і асобных твораў гэтага камерна-вакальнага жанру, якія ўвайшлі ў залаты фонд нацыянальнага мастацтва. Даніну павагі, калі можна так сказаць, у рознай ступені і ў розныя часы рамансу аддалі М. Аладаў, Р. Пукст, Я. Цікоцкі, А. Багатыроў, П. Падкавыраў, Л. Абеліёвіч, У. Алоўнікаў, Я. Глебаў, С. Картэс ды інш. Цікавасць да рамансу не згасла і сёння, але стварэнне рамансаў стала, так бы мовіць, працай штучнай, часта адзінкавым досведам у творчасці.

Напэўна, таму канцэрт-прэзентацыя цыкла рамансаў вядомага беларускага кампазітара Рыгора Суруса на вершы варонежскага паэта Васіля Кулікова-Ярмонава, які адбыўся ў Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы, прыцягнуў увагу не толькі аматараў і прыхільнікаў жанру, але і прафесіяналаў. Канцэрты такога кшталту нават у сталічным музычным асяроддзі здараюцца нячаста. Раманс патрабуе і асаблівай манеры выканання, і асаблівай сцэнічнай пляцоўкі.

Так, жанравыя прыярытэты з цягам часу мяняюцца і ў гістарычным эпахальным зрэзе, і ў межах творчасці асобнага кампазітара. Сапраўды, Рыгор Сурус больш вядомы як аўтар музычных камедый, сачыненняў буйной формы ў галіне вакальна-інструментальнай і аркестравай музыкі, а таксама як кампазітар, які шмат пісаў для фартэпіяна, ансамблевую камерна-інструментальную музыку, у тым ліку ствараўшы вялікі і вельмі запатрабаваны рэпертуар для дзяцей і юнацтва. Між іншым і вакальная музыка ў спісе яго асноўных сачыненняў прадстаўлена разнастайна. Тут і харавыя канцэрты, і шматлікія апрацоўкі беларускіх народных песень для хору. Але што тычыцца рамансаў, то іх было няшмат.




Падчас навучання ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ў 1966 годзе сачыніў два першыя рамансы на вершы Максіма Багдановіча «Зімовая дарога» і «Цёплы вечар». Шэраг рамансаў на вершы С. Красікава, М. Лермантава, Г. Бураўкіна, А. Вольскага з'явіліся ў 1990-я. Але ж пасля на працягу пятнаццаці гадоў у гэтым жанры кампазітар не стварыў нічога. Неўзабаве на канцэрце камернай музыкі, прымеркаванным у шэрагу іншых да васьмідзесяцігоддзя Беларускага саюза кампазітараў, у 2013 годзе адбылася прэм'ера першых рамансаў Рыгора Суруса на вершы Васіля Кулікова-Ярмонава.

Ідэя менавіта такога беларуска-рускага творчага супрацоўніцтва належыць варонежскаму філолагу Надзеі Максімаўне Талмачовай, якая зараз жыве ў Мінску. У межах яе праекта, які ажыццяўляўся цягам пяці гадоў, было падрыхтавана нотнае выданне зборніка і відэазапіс выканання створаных за гэты час чатырнаццаці рамансаў, якія і прагучалі ў канцэрце дзякуючы маладым артыстам, спевакам Кацярыне Лабковіч, Алене Калегаевай, Андрэю Марозаву, Аляксандру Міхнюку і Дзмітрыю Сівакову, а таксама канцэртмайстрам Вользе Сізко-Габрыялян, Таццяне Івановай, Наталлі Кароцінай і Аляксею Сідараву.

На жаль, паэту не давялося патрапіць на канцэрт, але разам з кампазітарам увесь час абмяркоўваліся самыя розныя аспекты і дэталі працы.

Абраныя Рыгорам Сурусам вершы выяўляюць лірычныя і філасофскія ракурсы гэтай тэмы. Як сцвярджае кампазітар, паэзія Васіля Кулікова-Ярмонава аказалася блізкай эмацыянальна і вобразна, па настроі і душэўным стане, але і нечым патаемным, тым, што тычыцца толькі яго самога. Таму першая палкая, захапляльная назва для зборніка «Ах, душа!» урэшце была заменена назвай другога рамансa «А ў душы ні крыўд, ні ідылій». Хаця па змесце яны звязаныя агульным глыбокім сэнсам, дакладней, асэнсаваннем пражытага і перажытага.

Сярод рамансаў цыкла ёсць узоры, што наследуюць уласныя жанравыя традыцыі і ў музычнай інтанацыі, і ў жанрава-характарным вырашэнні, ёсць цікавыя і арыгінальныя жанравыя міксты: раманс-прыпеўка «Маладзік, неба лотас», раманс-танга «Ты скажаш», якія нагадваюць тэатралізаваныя ігравыя сцэнкі. Сярод іншых — раманс-прынашэнне паэту «Бласлаўлёны мой люты!» і патэтычны маналог «Выраб» («Выделка»). Шэраг рамансаў прысвечаныя жанчыне, каханню, выяўляюць самую разнастайную гаму пачуццяў: «Вечнае — ты!», «Калі, о мілая», «Табе адной», «Захаладала».

Агульна-філасофскі погляд на навакольны свет дазваляе кампазітару і паэту знаходзіць простыя сродкі выразнасці, разважаць са слухачом спавядальна і шчыра, магчыма, таму падчас выканання рамансаў у некаторых накотвала «сляза з усмешкай папалам», у адпаведнасці з радкамі рамансa.

**Вера ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН**

# ЦЯПЛО Ў РУКАХ



Эльга Папова «Белая ноч», 2017 г.

**Вярнуцца ў свет дзяцінства прапануюць мастачкі Эльга Папова і Ірына Калеснікава. Іх творчы тандэм арганічны: Эльга працуе ў тэхніках акрылавага і алейнага жывапісу, а Ірына стварае карціны з лямцу. Але абедзве мастачкі памятаюць пра самыя чароўныя часы, таму выкарыстоўваюць магчымасць падоўжыць дзяцінства праз мастацтва. Паглядзець на свет «Дзіцячымі вачыма» можна на выстаўцы, што працуе ў арт-гасцёўні «Высокае месца».**

Мастачкі адзначаюць, што захаваць шчыры погляд на свет цяпер не так лёгка, але творчасць дапамагае не згубіць гэтую здольнасць. Мастачка Эльга Папова казачны свет бачыць у дзецях, праз іх вобразы выбудоўвае ўласную філасофію і светаадчуванне. Шмат пра сябе творца не гаворыць, лічыць, што лепш раскажуць творы. Жывапісная мова маладой мастачкі дорыць сапраўдную казку. Творца гуляе колерамі, тонка адчувае іх спалучэнне. Вельмі любіць адценні блакітнага.

Ірына Калеснікава можа правесці майстар-клас ці экскурсію па экспазіцыі сваіх твораў, дзе распавядзе, адкуль прыйшла ідэя стварыць сімпатычную рыжавалосую дзяўчыну альбо смешнага хлопчыка з гарбузамі.

Ірына выкарыстоўвае воўну аўстралійскага мерыноса — цёплую, мяккую навобмацак. Мастачка прызнаецца: да таго, як пачала валяць, рукі былі заўсёды халоднымі, а цяпер ад іх сыходзіць цяпло нават узімку. Валяннем аўтар займаецца апошніх пяць год, раней рабіла толькі лялькі. Аднак выпадак дапамог ёй адкрыць з воўны і карціны.

— Па адукацыі я выкладчык нямецкай мовы, — расказвае Ірына Калеснікава. — Карціны з лямцу пачала рабіць пасля таго, як захапілася дзіцячай ілюстрацыяй. Калі маё дзіця было маленькім, я часцяком у бібліятэцы брала нямецкія кнігі. Уражвала, як яны былі праілюстраваны. А з лямцам ужо мела справу, валяла ўсё, што толькі можна: упрыгожванні, цацкі. Супрацоўнікі бібліятэкі Інстытута імя Гётэ неяк папрасілі да кніжнай выстаўкі зрабіць цацку. Далі кнігу, па якой трэба было прыдумаць вобраз. Я зрабіла цацку, але падалося, што найбольш дакладна і арганічна сюжэт кнігі магла б перадаць асобная карціна. У выніку бібліятэка прапанавала мне зрабіць персанальную выстаўку.

Валянне — працэс працаёмкі і складаны, таму здаўна гэтым займаліся мужчыны. Цяпер гэта ў асноўным жаночая справа. Існуе мноства розных тэхнік, але Ірына аддае перавагу мокраму валянню. Мастачка ўпэўнена, што структура матэрыялу можа захапіць кожнага, галоўнае — адчуць цеплыню. Нездарма вырабы запатрабаваныя.

— Усё залежыць ад актыўнасці мастака, — падкрэслівае Ірына Калеснікава. — Адна справа — працаваць толькі дома, іншая — удзельнічаць у выстаўках, дэманстраваць майстэрства. Я рамеснік, гэта мой асноўны від дзейнасці. Мае кліенты — звычайныя сем'і, якія заказваюць карціны ў падарунак, для дзяцей. Заказчык можа паказаць мне партрэт чалавека і расказаць, чым ён захапляецца, якіх жывёл любіць. У маім творчым «рэпертуары» няма абмежаванняў: магу зрабіць як вясельны партрэт, так і казачную гісторыю. Мае карціны асацыююцца з дзяцінствам, але часта адлюстроўваю дарослых, трансфармуючы іх у персанажаў дзіцячых кніг. Фантазія — мой асноўны інструмент. Не арыентуюся на замежных аматараў, знайшла свайго гледача і заказчыка ў Беларусі: ведаеш менталітэт, разумееш, што прымусіць чалавека задумацца, а што — парадуе.

**Вікторыя АСКЕРА**



Ірына Калеснікава «Мая планета», 2014 г.

## Культурны ракурс



*Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.*

Вёска Валеўка раскінулася непадалёк ад таямнічага возера Свіцязь у Навагрудскім раёне. Успамінаю Свіцязь і Валеўку з асаблівай пяшчотай, бо я тут нарадзілася. Адсюль паходзілі продкі Адама Міцкевіча па бацькоўскай лініі. Тут месціўся маёнтак Чамброў, дзе ў пачатку XIX стагоддзя гаспадарыў Ігнацій Узлоўскі. Аканомам у яго служыў Матэвуш Маеўскі, дзед Адама Міцкевіча. Тут нарадзілася маці паэта, Барбара Маеўская. Гаспадыня маёнтка, Анэля Узлоўская, стала хроснай маці Адама Міцкевіча, таму ў дзяцінстве ён не раз быў у Чамброве.

Валеўку наведвалі Якуб Колас, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік ды іншыя пісьменнікі. Бо тут усё дыхае гісторыяй. Але ў першую чаргу прыцягвае старажытная драўляная царква святых апосталаў Пятра і Паўла, помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока. У XVII стагоддзі брэсцкі ваявода Стэфан Курч заснаваў у Валеўцы Троіцкі касцёл і Дамініканскі манастыр, але ў 1830 годзе касцёл быў пераасвечаны ў Петрапаўлаўскую царкву. У сярэдзіне XIX стагоддзя галоўны фасад царквы перабудавалі: знялі дзве вежы, а пазней над цэнтральнай часткай з'явіўся цыбулепадобны купал. У канцы гэтага ж стагоддзя ў храме захоўваліся метрычныя кнігі з 1764 года і знаходзіўся пісаны золатам абраз Маці Божай, які, паводле народнага падання, быў знойдзены каля вёскі Беразавец, дзе некалі існаваў замак ваяводы Кміты.

У 1930-я гады да храма прыбудавалі трох'ярусную званіцу, якая змяніла выгляд помніка. Тады ж царкву ўпрыгожыў аздоблены разьбой і пазалотай іканастас XIX стагоддзя, перавезены з Варшавы з разабранага праваслаўнага сабора Святой Троіцы. Уладзімір Караткевіч пісаў, што ў храме знаходзіліся іконы працы мастака Віктара Васняцова (зараз святары ўдакладняюць: абразы мастакоў школы Васняцова). Старажытная царква дзейнічае і сёння.

**Святлана КОШУР**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
08.06.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1554.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2151

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686